# НЁМАН

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКА - НАВУКОВЫ МЕСЯЧНІК.

1932. СТУДЗЕНЬ 1932.

| | | |
|---|---|---|
| Кніжка I. | Адрэс Рэдакцыі: Вільня, Каліварыйская вуліца 53, 2. | Падпіска на год. . 7 зал.<br>На паўгоду . . . 4 зал.<br>На 3 месяцы. . . 2 зал. 25 гр.<br>Адна кніжка. . . 1 зал. |



## АД РЭДАКЦЫІ.

Цяжкое палажэньне нашага народу асабліва сталася нягодным у вапошнія гады. Агульнае матар'яльнае згаленьне, якое перажывае ў роўнай меры нашая інтэлігенцыя, як і сялянства, зышйлося з вялікім крызысам у беларускім жыцьці наагул. Апошнімі гадамі мы перанесьлі цэлы рад спусташэньняў, зробленых чужнікамі ў галіне нашага культурна-асьветнага жыцьця, спусташэньняў, якія ў сваіх консэквэнцыях былі ськіваваны да пазбаўленьня беларускага народу самастойнага культурнага існаваньня.

У сувязі з гэтым вельмі зьменшылася й беларуская зашкольная асьвета. Зьменшылася таксама колькасьць беларускіх газэтаў і часапісаў. Мала выдаецца беларускіх кніжак. А тымчасам патрэба беларускага друкаванага слова нязвычайна вялікая.

У гэту крытычную часіну выходзе ў сьвет першая кніжка «*Нёмну*», — літаратурна-мастацка-навуковага месячніка. Заданьнем гэтага часапісу ёсьць прадаўжаць прыпыненую рознымі нягодамі белару-

скую культурна-асьветную працу і тварыць новыя вартасьці беларускай нацыянальнай культуры. Рэдакцыя *«Нёмну»* ставіць сабе мэтаю згуртаваць каля сябе ўсе нашыя літаратурныя й навуковыя сілы Заходняе Беларусі для супольнае працы на карысьць Бацькаўшчыны, як і — *разьвіваць нашую культуру, даваць ініцыятыву да самастойнае працы і будзіць беларускую нацыянальную сьвядомасьць*

Агульнае цяжкое палажэньне нашага народу чыста адказуе палажэньню ініцыятараў і выдаўцоў, рэдактароў і супрацаўнікоў *«Нёмну»*. Але мы жывём дзеля адраджэньня нашае Бацькаўшчыны, дзеля Яе шчасьлівае будучыні; дык наўперад хочам аддаць усё магчымае для дабра агульнае справы.

*«Нёман»* будзе месячнікам чыста аполітычным і беспартыйным.

У *«Нёмне»* будуць гэтакія аддзелы: літаратурны (вершы й апавяданьні), мастацкі, навуковы (літаратурная й навуковая крытыка, гісторыя Беларусі, гісторыя беларускага права і інш)., этнографічны, у які ўвойдуць беларускія народныя песьні з нотамі і інш. Таксама будзе пасьвячана месца сучасным праявам беларускага культурнага жыцьця й кнігапісу.

*РЭДАКЦЫЯ „НЁМНУ“.*

Вільня, 1 студня 1932 г.

НАТАЛЯ АРСЕНЕВА.

## Першы сьнег.

Сядня раніца й сонца ўставалі
У вянку з каляровых агнёў,
Анталяжамі льдзістымі зьзялі
Залатыя галіны кляноў.

Нятутэйшыя, дзіўныя краскі
Загараліся ў шыбах вакон,
Было раньне — старонкаю з казкі,
Было раньне — як высьнены сон.

А пасьля неба згасла... сьцямнела...
Вецер гэтак тужліва запеў,
З шэрых хмараў спакойна і бела
Сьнег густы паляцеў, паляцеў.

Ён засыпаў дзіўныя вузоры
На гальлі зачарованых дрэў.
Ён маркотныя ніваў разоры
Сьнегавою пялёнкай адзеў.

Сыпкіх гурбаў намёў па калені
Ў цягу доўгіх гадзінаў і дзён...
Згасіў зоры, агні і праменьні,
Каб прыпомніць, што жыцьце — ня сон.

Хэлмна 9-XII-31 г.

## Зімовая ноч.

Загарэліся зоры агнямі
Ў сыпкім попеле — ў шэрасьці хмар.
Гдзесь высока калыша званамі
Незнаёмы, таемны званар.

Змрок зімовы ўстае, цікайчыся
Па лагчынах, густых хвайнякох.
Ткаці дзіўную казку ўзяліся
Ноч... і ціша... і месяц... у трох:
Туманамі, што таюць і рвуцца
Усплылі па над зданьні хваін,
Мост з касулькаў сплялі, каб даткнуцца
Ў небе згубленых зорных тканін...
І каб сум па нябесных прасторах
Кожны тут супакоіці мог, —
Засьвяцілі мільлённыя зоры
Ў бясканечных зімовых сьнягох.

---

## Ня вернеш.

Даль, няясная, сіняя даль
Пад узгоркаў сівою каронаю,
Лесу пас палатнінай зялёнаю, —
Адбіваецца ў яснасьці хваль —
Як далёка і радасьць, і жаль!

Дрэвы ў зморы маўкліва стаяць...
Цішыня залягла над старонкаю,
Толькі жаўранак з песьняю звонкаю
Узьляцеў па над луг — сенажаць,
Гдзе калматыя пшчолы гудзяць
І з румянка каронкаю тонкаю
Лёгкі ветрык ляціць пагуляць...

Божа! Жыцьцё штодзеннае, яснае
Ціха сходзіць, сплывае у даль,
Пакідаючы роспач і жаль,
Па мінулым тугу перадчасную,
Што у сэрцы зьвініць, як крышталь.

І пытаньне ўстае мімавольнае:
Што-ж зрабіў ты з натхнёнай душой,
Як праходзіў жыцьця пуціной?
Што зрабіў з сваёй воляю вольнаю?
Бо ня вернеш былога, на жаль!

Хэлмна.



Пётра Сяргіевіч. Залёты (уганяньне).

* * *

Папалася сонца у сеці,
У сеці сплятаныя з хмар...
Ой, крыльлі-б саколія меці,
Каб вышэй за хмары ўзьляцеці,
У сонца расплаўлены жар....
Мо' вочы мае занявідзяць,
Мо' змоўкне навекі мой сьпеў,
Мо' й людзі мяне зьненавідзяць, —
А ўсё-ж я да сонца ўзьляцеў!

## М. МАШАРА.

* * *

Ня шкода дзён, нябачна так пражытых,
Ня шкода радасьці і сьлёз,
Ў жывой красе, другой вясной разьлітай,
Таксама будзе дзень прыгож.

Таксама, з тайнай радасьцю і больлю,
Пайду я ўзноў шукаць сябе,
Ў кузурцы маленькай і ў ніў прывольлю,
І новы гымн складу красе.

Таксама буду плакаць і сьміяцца,
У ўздымах таіць і гарэць,
І соладам да п'яна упівацца,
Пакуль жыцьцёвы шлях мінець.

Мінець жыцьцё!... Ня шкода, што ня ўбачу
Йзноў красачны расквіт вясны,
Адно жадаў-бы знаць, ці сьлед адзначу
Пражытых дзён тут на зямлі.

* * *

Распалю ў вагні цярпеньня
Думак вольных маіх раць,
Пачану ў гарне натхненьня
Песьні звонкія каваць.

Песьні - стрэлы. Песьні - клічы,
Прабуджэньня песьні - звон!
Хай іх ловіць, хай іх клічыць,
Каму воч ня склеіў сон.

Закружу іх зорным роем
Над тваёй цямрой, зямля,
Над сумуючым спакоем
Працавітага жыцьця.

І туды далей ў туманы,
Дзе балоты заляглі,
Дзе ад веку нячуваны
Песьні голас разьліўны.

— — — — — — — — — —

Да канца ў гарне натхненьня
Буду думкі раскаляць,
Маладое Адраджэньне,
Цябе ў песьнях расьпяваць!

30.IX.31 г.

---

* * *

Зямля напоена да п'яна
Асеньнім дождажам і імглой,
Сумуюць мокрыя парканы
І верба плача над страхой.

Куды ня глянiш: гразь-макрота,
Ды муць сьцюдзёнае вады

І сінягубая маркота
Спусьціла ў вёску павады.

А ночы цёмны .. Надта цёмна...
Даўгая ноч і зор няма...
І толькі сьвецяцца таёмна,
Як вочы ўдаль — агні акна.

І вецер рэзка, няўстрымана
Шуміць тужліва і шуміць,
Зямля напоена да п'яна,
Асеньнім сном заснула — сьпіць.

10.XI.31 г.

---

## Каваль.

(пасьвячаю брату)

Я каваль.
Я стаю і кую,
Што прайшло, то ня жаль:
Я наперад гляджу!
Я каваль.
Мой гарон у вагне *)
І каляная сталь
Паслухмяная мне.
Я каваль.
Малаток мой зьвініць
І далёка у даль
Звонкі звон той ляціць.
Я кую,
Я жартую з агнём, —
Небясьпеку люблю,
Мне усё ніпачом.

1-XI-31 г.

*) Маск., замест — у вагні.

## З цыклю «Вандроўнае».

* * *

Я — жабрак у родным краю,
Гэта радасьць, ня жыцьцё,
Поле, лес... іду, мінаю, —
Торба, кій — багацьце ўсё!

Сею песьні на узьмежкі,
Ў птушак розуму вучусь;
Мне знаёма кожна сьцежка,
Як шырока Беларусь.

Што ня куст, — начлег і хата,
Смачна сьпіцца на траве;
Доруць песьнямі дзяўчаты
Ў кожнай вёсцы і сяле.

Баюць казкі мне сустромы
Тых маўклівых курганоў;
Госьць жаданы, госьць знаёмы
Лесу, поля і лугоў.

Я малюся з каласамі
Ветру, сонцу і зары *),
Ідучы сьвячу нагамі
Пэрлы — пацеркі расы.

А памру... пайду у неба,
Богу шчыра памалюсь: —
— Божа, Божа, выгань з неба
Жабраком на Беларусь! —

Я — жабрак, клапот ня знаю,
Торба, кій — маё жыцьцё,
Ўсё кахаю, ўсё прыймаю,
Веру — к лепшаму усё!

19.XI.29 г.

---

*) Маск., пабеларуску — зары.

АНДРЭЙ АДХОННЫ.

# У падарожжы*).

(З песьняў падарожніка).

I.

Сябры, плывем!..
                Віднее бераг,
Па хвалях вёслы б'юць напеўна...
Даўно мінуў бязьлікі шэраг
Пудлівых зданьняў неспадзеўных...
Шапочуць сонныя аёры,
Шумяць чароты берагамі...
Мільгаюць новыя прасторы
І пакідаюцца за намі...
Сябры, плывем...
                Ужо сьвітае...
Шарэе ўсход...
                Шуршыць мурава...
Там качак спуджаная стая
Імкне у высь... да сонца нават.
Часамі вецер падарожны
Ўстрывожыць раптам узьбярэжжа...
Мы знаем — шчасьце ў палкіх крозах
Мы напаткаем у бязьмежжы...
Таму плывем — не супярэчым
Разгону хваль і мертвай цішы...
Сустрэнем з ласкай ціхі вечар
І рань спаткаем на узвышшы.

II.

І дзень за днём у падарожжы
Хадой нястрымнаю ідуць...
Шукаюць звонкіх песень - дум

*) З рэдакцыйнага портфэлю „Родных Гоняў". Рэдакца „Нёмну".

І каляровых і прыгожых, —
Так дзень за днём у падарожжы.

І мы, вандруючы ідзём,
Блукаем - ходзім у прасторах.
І так у струнных пераборах —
У падарожжы дзень за днём...
Мы ўсе, вандруючы ідзём...

Замкнута кола. І закончан
Далёкі, цяжкі пераход
І так ізноў за годам год,
Палаючы смалістым корчам...
І шлях ніколі не закончан.

Цяпер стаім на перавале,
А заўтра кіне йзноў на шлях
І йзноўку пойдзем у прасьцяг
З вясёлай песеннаю хваляй,
Цяпер стаім на перавале....

Таму вітаю ў песьнях раньня
І падарожжа, і шляхі,
І гэты сьветлы небасхіл,
Што нас віншуе з вандраваньнем —
Усё вітаю ў песьнях раньня!..

С. КУЛЕШ.

## Курган.

Над сьцепам шырокім, дзе травы шумяць,
Дзе кветак букеты, як зоры гараць,
Дзе ў променях зьзяе і зелень і сінь
І мармур далёкіх надхмарных вышынь,
Дзе птушак мэлёдыі, конікаў трэск

І горнай рачулкі бурлівы усплеск,
Дзе шумы і песьні, і немая ціш —
Ў глыбокім задум'і адзін ты стаіш!
„Скажы мне, курган, колькі соцень гадоў
Прайшло з тэй пары, як лілася тут кроў?
Як громы гармат заглушалі прастор,
Як дзьвякалі шаблі ў зялезны упор,
І крык баявы і прадсьмертнае „о-о-й!“
Ты чуў, о, скажы мне, курган!? Над табой
Схіліўшы кудравую голаву ніц,
З вачыма, як водблеск Заходніх зарніц,
Прыпаўшы грудзьмі да дыміўшыхся траў
З пракляцьцем на вуснах баец паміраў.
„То-ж косьці сыноў Беларускіх балот
Падмуркам былі для маўклівых высот.
Скажы, я чакаю!“ Маўчыць вялікан.
Над горнай вяршыняй уецца туман.
Ні гуку кругом. Цішыня навакол.
З далёкай вяршыні падняўся арол
І кропкай павіс над страмнінамі гор,
Яму толькі бачан шырокі прастор,
Яму усьміхаецца зелень і сінь,
І мармур далёкіх надхмарных вышынь.

## ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

* * *

Шум на вуліцах, неба, людзі
І ўсё, усё, што я бачу,
Што я чую сягодня ўсюды —
Так прыгожы, так мнагазначны...

У маё сэрца сягодня радасьць,
Быццам ластаўка, прыляцела —

Кожны бліск вачэй спагадны
Выклікае бадзёрасьць і сьмеласьць.

Ці таму, што на бруку дажджамі
Гукі рад'я сыплюцца, льлюцца
Й прадаваныя краскі у брамах
Гэтак цёпла вясною сьмяюцца?



Язэп Драздовіч. Пажар замчышча.

М. ВАСІЛЁК.

## Як калісьці...

Як калісьці срэбным лісьцем,
Шапацелі дрэвы —
Дзе-ж дзянькі, праменчык ясны,

Адгукайцесь, дзе вы?
Ледзь зарніца загарыцца,
Ночка чары сее —
Ўжо ішоў, каханьне - любасьць,
Спатыкаць цябе я.
Там ля рэчкі між парэчкаў,
Мілая дзяўчынка,
У пяшчотах казках шчасьця —
Час нам плыў часінкай...
Ночка ценьню лятуценьняў,
Бліскам срэбных зорак,
Нашу любасьць шал каханьня
Цешыла ў пакоры.
Пеў салоўка... ты галоўку
Мне на грудзі клала,
Ды маркотна ў задумленьні
Ціхенька шаптала:
„Я ня веру ў сваё шчасьце,
Міленькі, ня веру —
Яно сон чароўны, дзіўны,
Бо яго праз меру“...
Мінуў годзік... сумна бродзіць
Цень мой там сіроча,
Дзе піў чару забыцьця я
Пад аслонай ночы.
Адзьвінелі дзіўных трэляў
Залатыя хвілі,
Вочкі чорныя каханьня
На век супачылі.
Сэрцу песьняў, мілых песьняў
Ўжо ня трэба сядня...
У магіле пад курганам
Сьпіць маё каханьне!
Срэбным лісьцем, як калісьці,
Не шапочуць дрэвы —
Дзе-ж дзянькі, праменчык ясны,
Адгукнецесь, дзе вы?..

* * *

I.

Неспакойна штось на сэрцы,
Гэй-жа — песьню запяю я!
Сьмейся, браце, ў вочы сьмерці...
Неспакойна штосьць на сэрцы:

Буры прагну... эх паверце,
Ночка вечна не пануе.
Неспакойна штось на сэрцы,
Гэй-жа — песьню запяю я!

II.

Там за борам, гэй за гаем
Віхраць полымям пажары,
Ў вагні крыж хтосьці ўздыймае —
Там за борам, гэй за гаем!

Гэй, музыкі, марша зграем!
Што-ж — хай сьцюжа б'е па твары...
Там за борам, гэй за гаем
Віхраць полымям пажары.

III.

Рашчупрыла сонца косы —
Эх дзянёк на славу будзе.
Быццам золата палосы
Рашчупрыла сонца косы.

Чую гоман, адгалосы —
Радасьць рве на часткі грудзі...
Рашчупрыла сонца косы
Эх, дзянёк на славу будзе.

1931 г.

А. ВОЙНІЧ.

# Беларуская песьня.

Раз... два... тры... чатыры... пяць... шэсьць, раз... два... тры... чатыры... пяць... шэсьць... меру роўнымі шагамі сваю цэлю.

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі — дрыжыць з-за кратаў суседняе цэлі, цягне нехта надарваным голасам.

Песьня!...

Беларуская песьня! — твор галіты, тугі, нядолі і беспатольнага жыцьця.

Радзілася ты ў той час, калі ў іншых народаў тварылася песьня аб паходах і трыумфах, аб парывах сэрц маладых. Нядоля й няволя расстроіла й надарвала струны ліры твае і паплылі гукі - жальбы, гукі - стогны.

Плакаў народ пад'ярэмны, плакала ягоная песьня, плакала...

Плакала ты, песьня, разам з маткамі, жонкамі й сёстрамі, выпраўляючы сваіх сыноў, мужоў і братоў у паходы на Кіеў і Гаспадзін Вялікі Ноўгарад. Плакала ты з жанчынамі Воршы. Плакала, калі люты татарын нішчыў дабытак, а сыноў зямелькі твае забіраў у палон на зьдзек і паняверку. Плакала, калі „мячы маскоўскія пазванілі а шаломы літоўскія“. Плакала ў час польска - маскоўскіх войнаў. Плакала, калі разьнік Эўропы нішчыў старонку тваю. Плакала пры польскіх паўстаньнях і без паўстаньняў. Плакала, калі жорсткі пан браў жанок на паняверку, зьдзекаваўся над старымі й малымі, а бясьсільным загадаваў кукаваць. Плакала пры радзінах і хрысьцінах, з пастушком у полі, з жнеяй на постаці і касцом на пакосе. Плакала на вясельлі й на хаўтурох, у полі й дома, і ня было тае пары году, каб ты ня плакала, песьня.

Плакала - плыла па ўсёй Бацькаўшчыне-Беларусі, слалася туманом і хутка - спавівала зямельку гаротную.

Калі-ж праз гэты туман і бліснула песьня вясёлая, дык гэта была радасьць праз сьлёзы.

Капалі сьлёзы горкія, капалі...

Падалі каплі - сьлёзы на грудзі, на сэрцы, на душы люду сярмяжнага, як град на мужыцкую ніву, разьядалі раны крывавыя, родзячы страшэнны боль і... вырвалася песьня другая, песьня - праклён.

Загрымела песьня праклён... брызгнула сьлязьмі й крывёй у вочы багом, долі, аўторытэтам і скранула іх пасады.

Мяшаліся і кроў і сьлёзы!

Пераліваліся з пакаленьня ў пакаленьня... з грудзей матак высысалі дзеці боль, той страшэнны боль дзядоў і прадзедаў.

Канцэнтраваўся боль... стваралася веліч болю-пекла!— З яго паўстала песьня барацьбы:

„Ад веку мы спалі і нас разбудзілі“...

**10-I-28 г. Астрог на Лукішках.**

ХВ. ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

# Песьні жыцьця.

**(Ліст з астрогу).**

Даражэнькая!

Я сягодня меў шчасьце! Чуеш? Шчасьце — вялікае, сонечнае. Я бачыў чэцьверць бясхмарнага, сіняга неба! А гэта — на Лукішках — як назавеш начай?... Веснавое неба — радасна неяк, хоць далёка ад сьвету, ад вёскі, ад цябе... Ня ведаю, я ўжо такі — здаецца, трэба плакаць, злавацца — а ў мяне ціхасьпеўная радасьць. Другая вясна ўжо тут. Памятуеш, як мы хадзілі з табой па шашы такой-жа веснавой парою? Ты мне часта сьнішся тою веснавой, незабыўнай. У цябе вочы — сінія васількі, валасы—каласіста-ліпнёвыя і сама ты — як сінядымная быль палёў... Ты мяне часта ў снох на крыльлях пяшчотаў і жытніх шолахаў узносіш у краіну байкі... Я прачыхаюся тады й доўга гляджу праз краты: не магу адразу перайсьці да запраўднасьці. Цьвіце маладасьць і, ня змогшы раскрасавацца, губіцца то тут, то там. Але-ж я пэўны, — нашыя васількі ня пойдуць намарна. Я веру — закрасуе жыцьцё, пырсьне фантанам у ўзьлётках сугуччаў да сонца — свайго бацькі. Я хацеў-бы гэтую радасьць жыцьця пераліць у цябе, хацеў-бы цябе прытуліць, прыгалубіць... у думках аб табе я знаходжу нявысыхаючую крыніцу псыхічнае моцы. А тут яе так трэба. Часам сэрца закіпіць ад крыўды й зьдзеку чалавека над чалавекам і часам, павер, здаецца, што так было й будзе. Закавалі маю маладасьць... Тужыць сэрца аб нечым пяшчотным, аб ціхіх ласках; кліча маладасьць у сонечныя да-

лечы, кліча здабываць сьвет; і сумна часам робіцца, пастудэнцкаму сумна, ад гэтых погукаў, пяшчотных заклікаў...

Ты цікавішся, як жывуць у вастрозе?.. Калі-б ты хадзіла бясконца па коле r = 10 m., дык гэта было-б нашае жыцьцё. Часам бывае вясёла, але найчасьцей — задуменна-панура. Кожную раніцу й вечар у пяць з паловай гадзінаў тут б'е па нэрвах сьвісток. Гэта значыць: уставай!; або — можаш спаць. Ужо 1.200 з нечым сьвісткоў чуў я тут. І ня ведаю, калі пачую сьвісток цягніка, што адвязе мяне на сяло... Кожны дзень мы ходзім на праходак. Праходку маем — вельмі мала. Спачатку прыемна, але пасьля, як астрог ужо скрывіць нэрвы чалавека, гэта нязносная мука. Але, астрог „крывіць" чалавека — гэта найлепшая ацэна яго работы. Але разам з тым ён улівае ў чалавека інстынктыўную ненавісьць да няволеньня. У цэлі чуешся зусім звычайна, ня тое, што на праходку. Кожная цэгла, кожны скрып асабліва ўвосень, калі так шэра — сьцёбаюць, расьцягаюць нэрвы. Ходзіш, ходзіш... як у якім пансыёне ці манастыры. Кола r = 10 m. Пішы мне. У тваіх лістох я знайду шмат здаваленьня й спакою.



П. С. Лінарыт.

*Праф. А. САВІЧ.*

# Беларускія школы ў старой Вільні *)

*(у сувязі з гісторыяй культурных рухаў у Беларусі XVI — XVIII ст.).*

## Разьдзел другі.

### Так званая „рэакца“. Езуіты; іх роля ў васьвеце беларускае маладзежы. Езуіцкія школы ў Вільні.

Было-б вялікай гісторычнай абмылаю лічыць езуіцкі ордэн рэакцыйным рухам у значэньню звароту да старога каталіцтва. Езуіты зрабілі рэформу ў самой каталіцкай царкве. У гэтым ня цяжка пераканацца пры беспасярэднім знаёмстве з арганізацыяй ордэну, мэтодамі дзейнасьці ягонае і апошнімі мэтамі. Старая фэодальная царква каталіцкая не магла-б устоіць проці рэформацыйнага націску без адпаведнае радыкальнае рэформы. Тым часам каталіцтва, прыведзенае ў сыстэму на Трыдэнцкім саборы, ня толькі ўдзержыла асноўныя пазыцы, але борзда само перайшло ў наступ. Чым выясьніць падобную зьяву? Рэформацыйны рух абцяжыўся цэлым сьцягам соцыяльна-аканоміцкіх працэсаў. Дзеля ілюстрацы варта ўспомнець аб ведамых сялянскіх войнах. Панства, катораму ў протэстанцтве магла ўсьміхацца сэкулярызаца царкоўных земляў, цяпер аказалася не на жарты ўстрывожанаю небясьпечнасьцяй новае жакерыі. Лютэранскі й кальвінскі рацыяналізм ня ўсім быў прыступны, а сэктанскі містыцызм, што ўзьняў асобу ледзь не да апотэозу, перанесены на сялянскі грунт даваў простаму народу поймы, каторыя не згаджаліся з тагачасным соцыяльным ладам. Езуіцкі ордэн зьявіўся зусім удачнай антытэзаю. Проці сухога догмату рацыяналістычнага ён паставіў дзіўныя экзэрцыцы й размышленьні, бязрадаснай навуццы аб прадназначэньню вымаганьне добрага ўчынку і памагаючай малітвы царквы, а асабістаму самадуму інтэр-

*) Гэтую працу проф. А. Савіча нам перадала б. рэдакца часапісу „Родныя Гоні“. Рэдакца.

прэтацы сьвятога пісьма — аўторытэт царквы, срогую дысцыпліну і г. д. Гэт'кім парадкам дзеля недапушчэньня магчымых дальшых соцыяльна - палітычных рухаў езуіцкі ордэн прадстаўляўся кіруючай клясе дасканальным дысцыплінуючым аружжам.

З Беларусяй езуіцкі ордэн быў зьвязаны асабліва цесна. Упяршыню ў Польска-Беларускім гаспадарстве езуіты зьявіліся ня ў Польшчы, але ў Беларусі. Навет цасьля таго, як у 1773 г. настала ліквідаца ордэну ў Польшчы й Жамойці дый Зах. Беларусі, у белар. землях, што адыйшлі па першым разьдзеле Рэчыпаспалітае да Расеі, ордэн астаўся незачэпным.

Каб выясьніць прычыны ўдачы езуіцкага ордэну ў Беларусі сярод мясцовае шляхты, што сваё ранейшае захапленьне протэстанцтвам памяняла на адданасьць езуітам, трэба зьвярнуць увагу на гаспадарскае палажэньне беларускае шляхты. Галоўным дзейнікам, што азначаў у той час соцыяльныя й політычныя адносіны ў Польска - Беларускім гаспадарстве быў targовы капітал. Яшчэ ў 2-ой палове XV ст. капіталістычныя адносіны пачынаюць праходзіць у розныя раёны Польшчы й Беларусі („Літвы“), а ў XVI ст. яны абыймаюць ужо большую часьць гаспадарства. Панская гаспадарка пачынае рабіць на рынак. Галоўным пасярэднікам польскага й беларускага гандлю з Заходам робіцца Гданск, ляжачы ля ўтоку злучаных Мотлау і Родоунэ ў Віслу. Яшчэ з XIV ст. Гданск уходзе ў жывыя гандлёвыя зносіны з усімі заходне-эўропэйскімі краямі і беларускімі землямі, на'т з Вялікім Ноўгарадам. У Вільні й Коўні гданскія купцы мелі свае канторы. У 1455 г., умоваю ў Таруні, Гданск разам з краем заходніх Прусаў пераходзе да Польшчы, заховуючы поўную аўтаномію з номінальнай залежнасьцяй ад новага сюзэрэна. Да XVI ст. прадметы вывазу цераз Гданск яшчэ не дасталі канчальнае спэцыялізацы: з этнографічна беларускіх земляў В. Кн. Літоўскага вывозіліся, прыкл., скуры, лес, мёд, пянка, збожжа і г. д. Але ў XVI ст., паводле назіраньняў аднаго з дасьледавальнікаў гаспадаркі беларускага й польскага гаспадарства, А. Шалянгоўскага, Гданск, сусярэдзіў сваю гандлёвую дзеяльнасьць на збажжавым вывазе. Былі й іншыя рынкі, куды звозілася збожжа, як з Польшчы, так і з Вялікага Княства Літоўскага, прыкл. Эльблёнг, Кенігсбэрг, Клайпэда, Рыга, Кракаў, Пазнань, Тарунь і нек. інш. *). С. Чарноўскі меў рацу

*) Czarnowski, Historja handlu i przemysłu w Polsce i Rosji. Warszawa. 1881 r., p. 43. 125 i 126; Adam Szelęgowski, Pieniądz i przewrót cen w XVI i XVII wieku w Polsce. Lwów, 1902 r, p. 103.

цьвердзіць, што вялікая часьць збожжа вывозілася з „рускіх“ земляў *). Зацемім, што паміж іншым вялікі гандаль збожжам з Гданскам вёў слаўны беларускі канцлер Леў Сапега **).

Развой вывазу збожжа ствары́ў адпаведныя соцыяльныя адносіны ў гаспадарстве: стала трывалкой сыстэма прыгоннае гаспадаркі, шляхта захапіла ў свае рукі галоўную артэрыю гаспадарскага жыцьця краю, чыста паддаўшы ўладзе панскай цяглую асобу селяніна. Езуіты цесна зьвязалі сваю долю з польска-беларускай шляхтай, стварыўшы апошняй цэлую сетку школаў, ухутаўшы панскія дамы сыстэмаю духоўніцтва ды арганізаваўшы простаму народу ўрачыстыя імшы і рэлігійныя цырамоні. Не дарма пасьлей, калі развыдраная шляхта прывяла Польска - Беларускае Гаспадарства да палітычнае катастрофы, у некаторых колах грамадзянства езуітаў упорна вінавацілі ў насталых няшчасьцях ***).

Па сьмерці Жыгімонта Аўгуста, апякуна протэстантаў, кароткае гаспадараньне Гэнрыха зьмянілася парою Сьцяпана Батуры. Адважны ваеньнік, што борзда й удачна скончыў маскоўскую вайну, захаваў каралеўству берагі Балтыцкага мора, Батура быў вялікім прыхільнікам езуіцкага ордэну. Мы ня ведаем аўтэнтычных плянаў ураду Батуравага, але бяссумлеву, што ягоная дзяржава (гаспадараньне) ня была падобная ані да папярэдняе, ані да наступное. Батура йшкнуўся да абсолютызму і срогага цэнтралізму і ў гэтым яму апораю быў вялікі канцлер і каронны гэтман Ян Замойскі. Апошні адносіўся да шляхты вельмі войстра. Удача вонкавае палітыкі б. сямігародзкага ваяводы высака цанілася, дзеля таго не прадбачылася опозыцы яго нутраной палітыцы. Паводле Батуры езуіцкі ордэн і мог зрабіць вялікую ўслугу дзеля цэнтралізацы гаспадарства, як вонкавае, так і нутраное. Догматычны бок протэстанцтва й каталіцтва хіба ня цікавіў Батуры, але наснудзіць добрыя адносіны Рэчыпаспалітае з Цэсарствам, здабыць спагад апостальскае сталіцы дый выступіць у перагаворах з маскоўскім урадам з вялікшай удачаю мог малады, але ўжо ведамы з добрага боку ордэн ****).

---

*) Czarnowski, op. cit, p. 44.

**) Archiwum Domu Radziwiłłów... Scriptores Rerum Polonicarum, t. VIII, p. 229.

***) Załęski, „Czy iezuici zgubili Polskę?“ Lwów, 1872, (3-яе выд. ў Кракаве 1883 г.).

****) Załęski, Jezuici w Polsce, t. I, p. I, Lwów 1900 г., p. 245.

Зьявіўшыся ў Беларусь, езуіты праявілі сябе адразу, як школьныя дзеячы; дзеля таго аб першых кроках ордэну на беларускай зямлі мы скажам пазьней і з іншае прычыны. Гісторыя ордэну ў Польска-Беларускім гаспадарстве даволі вывучана *), і мы адцемім адно некаторыя выдатныя мамэнты.

У 1608 г. езуіцкі ордэн у Польска-Беларускім гаспадарстве складае ўжо 2 провінцыі: польскую й „літоўскую“ (беларускую). Провінцыялам „літоўскае“ провінцыі быў Паўла Бокса. Значэньне езуітаў, як вельмі добрых вучыцялёў, расло з кожным годам. Як і трэба было спадзявацца, паміж езуітамі і іншымі асьветнымі арганізацыямі вельмі борзда мусіла ўзьняцца непрыязьнь з прычыны конкурэнцы. Наўперад пачаліся непаразуменьні ў ордэну з Кракаўскай акадэміяй, калі езуіты заклалі ў Кракаве побач з Акадэміяй сваю школу. З прычыны перашкодаў Кракаўскае Акадэміі езуітам не ўдалося свае пазнанскае колегіі ператварыць у вакадэмію. Не дапусьціла таксама кракаўская акадэмія закласьці езуіцкую акадэмію ў Львове. У другой палове XVII ст. пачалося ходаньне паміж кракаўскай акадэміяй і ордэнам за ніжшыя школы. Гэтак, прыкл., у 1668 г. акадэмія спрацівілася арганізацы ордэнам ніжшае школы ў Варшаве з тае прычыны, што тамака была акадэмічная школа.

Апрача езуітаў прабавалі й іншыя мніскія корпорацы („ордэны“) заводзіць школы ў Польска-Беларускім Гаспадарстве. Мы ведаем, прыкл., што вельмі ажывілі тут справу асьветы піяры, зьявіўшыся сюды ў сярэдзіне XVII ст. Сам урад стараўся прыцягнуць піяраў у Польска-Бепарускае Гаспадарства. У 1641 г. зварочаваўся ў Рым кароль Уладзіслаў з просьбаю выслаць у Польшчу й „Літву“ колькі чалавекаў піяраў. Калі ў часе трыццацігодняе вайны Швэды аблажылі Оломуц, мясцовыя піяры ўцяклі ў Польшчу. Су-

*) Гісторыі езуіцкага ордэну на прасторы Польска-Беларускага Гаспадарства пасьвячана ладная колькасьць дасьледаваньняў, як у лацінскай і польскай, так і ў расейскай мове. Мы назавём адно некаторыя, найгрунтаўнейшыя: 1) Rostowski. Lithuanicarum S. I. Historiarum provincialium pars prima Vilnae 1768. 2) Załęski. Jezuici w Polsce, t. I—V. 3) Baliński. Dawna akademia Wileńska, 1862. Petersburg. 4) Bieliński. Uniwersitet Wileński; у расейскай мове ўжо ёсьць так-жа дасьледаваньні, пасьвячоныя гісторыі ордэну на тэрыторыі Беларусі й Украіны: 1) А. Демьянович „Іезуіты в Западной Россіи в 1569—1772 г.“ СПБ 1872 г. 2) Ю. Ф. Самарин „Іезуиты и их отношеніе к Россіи“, 3) Морошкин „Іезуиты в Россіи“, 4) Д. Толстой „Римскій католицизм в Россіи“, 5) Гожанчинскій „Іезуиты и их педагогическая деятельность в Польше и Литве“ (Труды Кіевской дух. акад. 1869 г., т. I). Шмат ведамасьцяў з гісторыі езуітаў у Беларусі й Украіне можна знаходзіць у кнізе К. Ц. Харламповіча „Западноруския школы“ і ў Лукашэвіча „Historia szkół“ op. cit.

стрэўшы помач з боку ўраду (караля Ўладзіслава), піяры борзда пашырыліся й на тэрыторыі Беларусі, асеўшы ў Вільні, Віцебску, Шчучыне, Зельве і некат. іншых мясцох *). Езуіты вусна і ў друку стараліся дыскрэдытаваць вучэньне й узгадаваньне ў піярскіх школах. Пасыпаліся ўзаемныя жальбы ўраду і ў Рым. Даходзіла й да адкрытых нападаў езуіцкіх вучаньнікаў на сваіх сяброў, што вучыліся ў піярскіх школах. У мясцовых судовых урадах піяры не маглі знайсьці суду на езуітаў. У вадказ на свае жальбы піярам прыходзілася чуць гэткае: „nie doczekają studenci pijarscy, aby za nich karani byli iezuiccy". У пачатку XVIII ст. пачаліся ў Беларусі стычкі паміж піярамі й езуітамі. У Вільні піяры зьявіліся ў 1727 г., пакліканыя мясцовым р.-каталіцкім біскупам Канстанцінам Бразоўскім. Мэрацкі стараста (пазьней троцкі каштэлян) Антон Сапега падарыў ім пляц, т. зв. Палубінскі, і два мураваныя дамы з тым, каб тут піяры адчынілі сваю школу. Езуіты не маглі дапусьціць да гэтага, заяўляючы, што ў тых мясцох, дзе ёсьць езуіцкія колегіі, ніякіх іншых школаў не павінна быць. Дзеля таго што піяры мелі шмат прыхільнікаў сярод урадовых асобаў, як духоўных, так і сьвецкіх, дык езуіты пастанавілі выкарыстаць акалічную шляхту віленскага ваяводзтва. У XVIII ст. гэта ім ня цяжка было зрабіць: ладная часьць шляхты вучылася ў езуіцкіх колегіях. Забраўшыся на сойме, шляхта прыняла станаўкі протэст проці адчыненьня ў Вільні піярскае школы. Меская ўлада, здаецца, гатова была не зьвярнуць увагі на гэты протэст, але ўмяшаўся віленскі ваявода Канстанцін Пацей, каторы, быццам дзеля супакоеньня, забараніў піярам адчыняць сваю школу ў Вільні. Піяры зьвярнуліся да караля (Аўгуста II), каторы дэкрэтам з 16 лютага 1726 г. дазволіў піярам меці школу ў Вільні. Езуіты не супакоіліся і жальбы пайшлі ў Рым. У Ватыкане пытаньне было разьвязана прыхільна для піяраў: ім дазволілі вучыць у сваёй школе вышшыя навукі і прыймаць туды панскую моладзь. Непрыязьнь паміж абодвымі ордэнамі ня спынялася і часамі вылівалася ў ве ьмі рэзкія хвормы. У 1753 г. у Нясьвежу провінцыял піярскага ордэну Себасьцян Выкоўскі зрабіў з езуітамі ўмову, паводле каторае піяры забавязаліся зачыніць сваю школу ў Вільні, а замест яе мець тамака конвікт для шляхоцкае моладзі **).

---

*) Піярскія школы ў Беларусі былі ў Драгічыне, Геранёнах (Ашмянск. пав.), Лідзе, Лужкох, Варанове, Шчучыне, Віцебску й Зельве. На тэрыторыі Украіны мы асабіста ведаем толькі адну піярскую школу ў м. Межырэчча (недалёка ад Астрога).

**) Аб піярах гл. у Лукашэвіча, Historja szkół, op. cit. t. I, p. 174—194; глыбей расказуе аб піярскіх школах у Польшчы й Беларусі Biegań-

Гэткім парадкам дзеля ходаньня з ордэнам чыста вонкавай дарогаю піяры аказаліся слабымі. Ім аставалася толькі адно: паруміцца, каб палепшыць якасьць вучэньня ў сваіх школах. Рэформа ў піярскіх школах зьвязана з імем піяра Станіслава Канарскага. Ён паставіў на практычнейшы грунт раней схолястычнае вучэньне рыторыкі (вучэньне аб аратарскім мастацтве). Каб ляпей правесьці сваю рэформу, Канарскі выпісаваў з-за граніцы маладых і здольных піяраў. Быў аддалены із школы застарэлы і зусім някрытычны падручнік лацінскае мовы Альвара; замест яго зьявілася новая, ясная й сыстэматычная "Граматыка піярская", укладзеная самым Канарскім, выданая ўпяршыню ў 1741 г. і маючая пасьлей цэлы сьцяг выданьняў. У піярскіх школах пачалі вучыць новае філёзофіі, вучыцелем яе быў вучаньнік Канарскага Антон Вішнеўскі. Была павялічана колькасьць гадзінаў на матэматыку, прыроду, гісторыю й географію. Апрычоная комісія разглядала пытаньні аб укладаньню новых памогаў школьных; школьныя бібліётэкі былі забясьпечаныя кнігамі, картамі, глёбусамі, матэматычнымі й фізычнымі прыладамі, а ў некаторых мясцох зьявіліся навет колекцы да прыродных навукаў *).

Рэформаваныя гэткім спосабам піярскія школы пачалі борзда напаўняцца моладзяй, асабліва стаў популярны сярод выдатнае шляхты піярскі конвікт варшаўскі. Гэткія-ж конвікты былі арганізаваныя ў Львове й Вільні. Цікаўна адцеміць, што ў гэтыя конвікты пачала пераходзіць маладзеж ня толькі із звычайных колегіяў езуіцкіх, але навет з кракаўскае й віленскае акадэміі. Піяры маглі сьвяткаваць перамогу!

У гісторыі езуіцкае асьветы ў Беларусі важнае значэньне мела віленская колегія, што пазьней сталася акадэміяй. Езуіты ў Вільню лучылі ў 1569 г. і тады-ж адчынілі тут сваю школу на чале з асьвячоным езуітам Станіславам Варшавіцкім. Хмарнаю была раніца маладое асьветнае ўстановы. Праваслаўная і асабліва протэстанцкая шляхта ня зычыла пасылаць туды свае дзеці **). Адно дзякуючы прыязнаму падзьдзяржаньню мясцовага р.-каталіцкага біскупа

ski St., Szkoły pijarskie w Polsce". Muzeum, 1897; цікаўнейшыя веданьні аб гэтым пытаньню дае Moszyński A., „Wiadomość o sporze pijarów wileńskich z Iezuitami Wileńskimi". Wilno, 1838.

*) Sienicki A.: Reformy Konarskiego w szkolnictwie polskiem. Lwów 1898 r.

**) Łukaszewicz: Historja szkół. Op. cit., t. IV, p. 1.

Валяр'яна Прагасэвіча, езуіцкая колегія ў Вільні выдзержавала ходаньне за быцьцё *).

За 8 год яна апрычоным прывілеем караля Сьцяпана Батуры, што, як мы бачылі, прыяў езуітам, была ператворана ў вакадэмію і зраўнана ў правох з акадэміяй кракаўскай **). Папеж Рыгор XIII адумысловым дэкрэтам з 29 кастрычніка 1579 г. зраўнаў віленскую акадэмію езуіцкую ў правох і прывілеях з усімі аналёгічнымі акадэміямі Заходняе Эўропы ***).

Спачатна віленская акадэмія езуіцкая складалася з двух адзьдзелаў: філёзофічнага й багаслоўскага. Філёзофічны адзьдзел абыймаў гэткія навукі: 1) этыка й політыка, 2) фізыка, 3) мэтафізыка, 4) лёгіка 5) філёзофія, 6) матэматыка, 7) рыторыка, 8) гісторыя, 9) географія, 10) поэзія, 11) лацінскі язык, 12) францускі язык, 13) нямецкі язык і 14) астраномія. Усіх пералічаных курсаў вучылі 5 профэсароў. Над філёзофічным адзьдзелам быў адзьдзел багаслоўскі з адумысловымі багаслоўскімі курсамі, пайменна гэткімі: 1) багаслоўе маральнае, 2) казуістыка, 3) полеміка, 4) догматыка, 5) языкі ўсходнія (грэцкі й гэбрэйскі) і 6) канонічнае права. Багаслоўскія курсы чыталі 8 профэсароў. Стараньням высака асьвячонага „літоўскага" (беларускага) канцлера Лева Сапегі пры віленскай акадэміі езуіцкай быў адчынены (ў 1644 г.) праўны адзьдзел. Дзеля гэтае мэты Леў Сапега падарыў акадэміі 12,500 залатых гатоўкаю, абяцаючы яшчэ выплаціць у будучыні 25.000 зал.****). На зычэньне Сапегі, 4 адумыслоўцы профэсары павінны былі чытаць праўныя курсы. Адзьдзел быў адчынены, хоць праўныя навукі выкладаліся ў ім ня зусім акуратна; відавочна не заўсёды дзеля гэтага выкладаньня ставала патрэбных адумыслоўцаў.

За караля Ўладзіслава была спроба адчыніць пры віленскай акадэміі й мэдыцынскі адзьдзел, але няма ведама чаму справа запынілася і ўжэ ладне пазьней, за эдукацыйнае комісіі, значыцца ўжэ па выгнаньню езуітаў з Польшчы і Заходняе Беларусі (1773 г.), тут сталі выкладаць і мэдыцынскія навукі (тэорэтычная мэдыцына, анатомія, хірургія, акушэрства і ўспаможная навука — батаніка). На чале кожнага адзьдзелу стаяў дзекан, а ўсёй акадэміяй загадаваў віленскі р.-каталіцкі біскуп *****).

---

*) Біс. В. Пратасэвіч даў новай kолегіі сьцяг дамоў у Вільні ды двор Меднікі з прыслухуючымі сёламі і сьцяг іншых земляў (ibidem, p. 11—20).

**) ibidem, p.2 – 6; прыр. т. I, p. 123—124.

***) ibidem, t IV, p. 6—7.

****) Пазьней замест 25.000 залатых Сапега аддаў на вышменаваную мэту свой двор Пачаевічы (у Аршанскім павеце).

*****) ibidem, p. 23, 40.

Студэнты ў вакадэміі жылі ў вадумысловых бурсах. Мы ведаем колькі гэткіх бурсаў. Наўперад назавём Валяр'янаўскую бурсу, закладзеную біск. Валяр'янам Пратасэвічам у 1577 г. Яна займала палову камяніцы ля Замковае вул. У канцы XVI і ў XVII ст. у гэтую бурсу прыймаліся вылучна родзічы Вял. Княства Літоўскага, гэтаму-ж варунку адпавядаў ейны загадчык. Бейнартоўская бурса (звалася начай Амброзанскаю) адчынена была віленскім канонікам Амброзам Бейнартом, што даў на яе 10,000 залатых. Далей дары на гэтую бурсу расьлі, а ў 1672 г. ксёндз Мікадэмаўскага касьцёлу ў Вільні, Ян Кунцэвіч, падарыў пад бурсу камяніцу ля Замковае вуліцы. У 1618 г. земскі судзьдзя Ашмянскі, Ян Мікалай Карсак, залажыў т. зв. Карсакоўскі конвікт. Ён быў у дзеравяным доме ля Скапоўкі і залежыў ад мясцовае капітулы. У Карсакоўскім конвікце ўдзержавалі 20 бурсакоў: 10-ёх з роду Карсаковага, а 10 з бедных шляхцічаў іншых радоў.

(Далей будзе).

## Ды за морам мышка...

*(Карагодная народная песьня).*




Ды скочыла мышка чэраз плот,
Лепшая мышка, як той кот:
— Каб цябе, коце, ўдавіла,
Як я цябе карміла
Ды сырам, маслам, тварагом,
Ды пшанічным пірагом.

Запісана ў в. Зарэчча, Гарадзейскае вол., Нясьвескага пав.

# Гісторыя беларускага мастацтва.

*М. Шчакаціхін, Доцэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.* — **Нарысы з Гісторыі Беларускага Мастацтва**. Том першы. Менск — 1928 г. Інстытут Белар. Культуры.

У Менску, у выданьні Інбелкульту, ператворанага ўжо ў Белар. Акадэмію Навук, выйшаў першы том шырака задуманае аўтарам працы пад выш пададзеным назовам.

Праца гэтая, разьлічаная аўтарам на 5 тамоў, зьяўляецца **першай спробай сыстэматычнага вывучэньня беларускага мастацтва, як такога.**

Ужо адно гэтае дае нам права зьвярнуць на яе асаблівую ўвагу беларускага чытара на нашым Заходзе.

Але гэтыя скромна названыя аўтарам „Нарысы“ — натолькі ўдалыя, натолькі багатыя зьместам, з такой усебаковай ведай, з такой гарачай любоўю напісаныя, натолькі захапляюць чытара яркім абразом адбудаванага, адчыненага яго вачом няведамага дагэтуль, бо-ж расьцярушанага ды пахаванага нашымі добрымі суседамі **сьвету беларускага мастацтва — у яго даўгой і бліскучай гісторычнай эволюцыі,** — што ствараюць для нас папросту абавязак — пазнаёміць з гэтай цудоўнай кніжкай найшыршага чытара нашага Краю. А гэта асабліва дзеля таго, што кніжка Шчакаціхінава — дарагая, дастаць яе цяжка. Дзеля ўсяго гэтага наш часапіс дасьць чытаром у сьцягу нумароў у скарачэньню асноўны зьмест працы беларускага гісторыка - мастака. Бо-ж, як сказана, агульна - ўзгадавальнае, нацыянальна - ўсьведамляючае значэньне яе — вялізарнае.

---

Нацыянальна - чалавечая асоба сьпелага да волі й самастойнасьці народу ведае, любіць, зьбірае й заховуе сваю мінуўшчыню, плятучы з яе жывую гісторыю, жывую тканіну свайго несьмяротнага жыцьця. Праца сягодняшняга дня —

гэта й ёсьць ператварэньне жывое мінуўшчыні ў жывую будучыню народу.

Гэтага не разумеюць „пролетарскія“ дыктатары радавае Беларусі, дзе з зьменаю культурна-нацыянальнага курсу на „пролетарскі“, для якога — „няма мінуўшчыні, а ёсьць толькі будучыня“, няма Бацькаўшчыны, але ёсьць толькі „інтэрнацыянальная кляса“, няма прыроды й мастацтва, але ёсьць толькі машына й тэхніка, — датуль, пакуль кіруючыя жыцьцём „бядняцкія“ культурай душы ў Усходняй Беларусі збагацеюць культурай і духоўным дазнаньнем дый зразумеюць, што толькі той народ, які мае й памятуе сваю мінуўшчыню, мае й будучыню, што якраз у мінуўшчыні — найглыбшае карэньне нацыянальнае самабытнасьці народу, якой цяпер у пролетарскай БСРР абвясьцілі сьмяротную вайну якраз, хіба, дзеля таго, каб лягчэй было пазбавіць беларускі народ яго самабытнасьці, яго собскага арыгінальнага, нацыянальнага віду, свае собскае долі, назначанай яму Богам-Прыродай мэты й місіі ў сьвеце сярод іншых братоў-народаў.

Калі сам Беларус не зьбярэ дый не захавае сабе гэтае забітае дый расьцярушанае па ўсім яго Краі-Бацькаўшчыне яго роднае мінуўшчыні, дык нехта зробіць усё гэта, але сабе, а не яму, падмяніўшы беларускую мінуўшчыню нейкай іншай — чужой... Дый — ці-ж не рабілася дый ня робіцца гэта ўсьцяж на нашых вачох у белы дзень нашымі суседзямі...

Дык пара ўжо й самым Беларусам, узяць голас у гэтай **нашай** справе, пара пачаць плянова, адкрыта й горача гэтую сьвятую нам, неабходную для нашага нацыянальнага ўздыму й разьвіцьця працу — **зьбіраньня й ускрашэньня нашае мінуўшчыні — дзеля ператварэньня яе ў жывую нашую сучаснасьць і вечную будучыню**. Бо-ж усё тое, што нашым сусядом-чужнікам тутака прадстаўляе нейкую навуковую цікаўнасьць, як мертвыя „забыткі“, — для іх музэяў, для архэолёгічных колекцыяў, архіваў, нам—Беларусом гэта наўперад — абрыўкі нашага мінулага жыцьця, кавалкі быццам нас самых, нашага нацыянальнага цела, нашае душы... Дый усё гэта толькі на пагляд мертвае, а запраўды жывець, толькі неяк „заснула“ — бо-ж сьпіць з ім разам і нашая душа, што забылася сваю мінуўшчыню... Усё гэта зараз-жа ажыве, як толькі прачхнёмся мы самі дый тады мы адразу пазнаем усю вялізарную вартасьць, усю кроўную блізкасьць нам гэтых „забыткаў“, кавалкаў, абрыўкаў даўнейшага жыцьця, якое калісьці буйна, вольна, шырака жыло й красавала. Дык — усё гэта, кажам мы, мае

цудоўную сілу йзноў ажыць, як толькі ажывём мы самі, ускрэшаныя нашай любасьцяй да нашае вялікае нацыянальнае асобы, жывое, суцэльнае—у яе мінуўшчыні, сучаснасьці і бязьмежнай будучыні.

Мастацтва, як нехта ўдала сказаў, ёсьць быццам **красаваньне нацыянальнага жыцьця народу**. Мастацтва найляпей выражае **поўню, сілу й радасьць жыцьця народу**. Сухія, адарваныя факты й лічбы гісторыі народу, вывучаныя на аснове архіваў і дакумэнтаў, мала кажуць сэрцу, жывому творчаму ўвабражэньню, — ня здольны адбудаваць, ускрасіць абраз жыўцом пахаванае мінуўшчыні. Такая гісторыя— быццам засушаны зельнік (herbarium) жывых калісьці красках, пазбаўлены ўжо іх **жывога духу й паху**. І вось — толькі мастацтва ўва ўсіх галінах свае творчае дзеяльнасьці мае цудоўную сілу — **захаваць навекі гэты дух і пах жывога жыцьця**. Недарма хтось сказаў, што мастацкая літаратура „дапаўняе гісторыю араматам мінулага жыцьця“...

---

Вось чаму такую вялізарную вагу для **нацыянальнага-гістарычнага ўсьведамленьня й узгадаваньня нашага грамадзянства** мае гэтая першая праца нашага менскага гісторыка, да выдажэньня якой мы й прыступаем.

Увесь плян працы аўтара разьлічаны на 5 тамоў. Першы том, што выйшаў у сьвет, зьмяшчае ўступ, які дае — пастаноўку проблемы, агляд асноўнае літаратуры, дарогі й мэтоды папярэдніх дасьледаваньняў, і падзелены ён (том) далей на 4 разьдзелы. Першы разьдзел дае агляд „курганных старажытнасьцяў Беларусі“, другі — гісторыю „царкоўнае архітэктуры XI—XII стагодзьдзяў“, трэйці „эволюцыю замковага й ваеннага будаўніцтва Зах. Беларусі“ і чацьверты — „Беларускую готыку XV—XVI ст. ст.“.

Такім парадкам „нарысы“ даведзены ў I томе толькі да паловы XVI ст. Далейшыя тамы, прыгатаваныя ўжо ў ладнай меры аўтарам, маюць зьмясьціць агляд памяткаў барочнае архітэктуры XVII—XVIII ст. ст., архітэктурных формаў драўлянага будаўніцтва, памяткаў малярства, разьбярства, гравюры, напасьледак рознага роду ўжытковых мастацтваў, пачынаючы з старадаўніх ювэлірных вырабаў, разьбы, гафтаваньня, тканіны і канчаючы сучаснай народнай орнамэнтыкай.

---

Аўтар назваў сваю працу „нарысамі“, бо запраўднай **гісторыі** беларускага мастацтва патрэбна яшчэ шмат вялі-

ўарнае, прыгатавальнае працы. — Трэба ўважліва й поўна сабраць, дакладна вывучыць сабраны сыры матар'ал, прывесьці яго ў сыстэму. Гэтая праца звыш сілы аднаго дасьледчыка.

Праўда — у расейскай, як і ў польскай літаратуры, гісторычнай і археолёгічнай, ёсьць цэлы сьцяг працаў аб памятках беларускае старасьветчыны. Але — ўсю гэтую, часам карысную й патрэбную літаратуру навукова-об'ектыўнаму гісторыку трэба нанова пераглядзіць, бо-ж — як з пагляду на выбар матар'ялу, таксама з боку мэтоды яго вывучэньня — блізу ўсе гэтыя працы папярэдніх дасьледчыкаў, расейскіх і польскіх, **як рэзка тэндэнцыйныя ў васноўным падыходзе да заданьня**, не адказуюць вымогам сучаснае гісторычнае навукі.

Справа ў тым, што ані расейскія, ані польскія дасьледчыкі ня ставілі сабе, зразумела, наагул задачу **вывучэньня гісторычнага разьвіцьця беларускага мастацтва, як такога**, ня цікавіліся цалком проблемай **выяўленьня тыповых беларускіх элемэнтаў у памятках Беларусі**. Як лёгка зразумець, самая пастаноўка такое проблемы для навукі захопленых палітычнай барацьбой — **за Беларусь** — абодвых нашых сусядоў — была немагчыма...

Расейскія дасьледчыкі наагул ставілі мэтай свае „навуковае працы" давесьці спрадвечны „истинно-русскій" характар культуры т. зв. „Западнага краю". Дзеля таго сваю аналізу формаў старавечнае беларускае культуры, мала цікавячыся ёй па сутнасьці, як такой, расейскія дасьледчыкі зводзілі блізу вылучна да згары накіненае палітычнае тэндэнцыі — давесьці апрыорную тэзу аб „единстве" беларускае культуры з старадаўняй культурай Кіяўскае й Маскоўскае Русі, лішне перацэнюючы пры гэтым бізантыцкія ўплывы, зусім ня граючыя, як усюдых падчыркуе аўтар, такое ўжо дамінуючае ролі ў Беларусі — навет у царкоўным яе мастацтве. З другога боку расейскія дасьледчыкі блізу што зусім без увагі пакідалі тыя элемэнты заходне-эўропэйскіх мастацкіх формаў, якія граюць важную ролю ў памятках беларускае старасьветчыны. Напасьледак— пры такім агульным настаўленьні — цалком паміналіся, зразумела, тыя самабытныя рысы, якімі характарызуюцца нацыянальныя элемэнты ў старадаўнім мастацкім творстве Беларусі.

Усё гэта зрабіла, што навуковая вартасьць такіх дасьледаў аказалася цяпер больш, як сумлеўнай, а самі дасьледы маюць для нас толькі гісторычную цікаўнасьць.

Характэрна, што першыя з гэтых дасьледаў зьявіліся якраз беспасярэдне пасьля паўстаньня 1863 г... Як ведама, тады наладжаны былі спэцыяльныя экспэдыцыі ген.-губ. Мураўёвам і куратарам Карнілавам — з спэцыфічнымі мэтамі — „разысканія в краѣ древне-русских памятников, или по крайней мѣрѣ слѣдов тѣх из них, которые — в слѣпой ненависти к православію и русской народности — были уничтожены“... Баявая палітычная тэндэнцыя гэтых „навуковых экспэдыцыяў“ выказана тут зусім ясна й адкрыта.

Сабраныя гэтымі экспэдыцыямі археолёгічныя й гістарычныя матар'ялы, што блізу вылучна датычылі памяткаў праваслаўна-царкоўнае старасьветчыны XII, XVI й XVII ст. ст., увайшлі пасьля ў выданьні ведамага Бацюшкава: „Замѣчательности С.-З. Края“ (Вильна — 1868) і „Памятники русской старины в Зап. губ.“ (Спб.—1874). Такі-ж тэндэнцыйны, ненавуковы характар маюць і іншыя дасьледы, зьмешчаныя ў кніжках ды часапісах, як прыкл., „Вѣстник Зап. Россіи“, розныя „Памятныя книжки“ беларускіх губэрняў, „Виленскіе Календари“ і інш. Навет у найсур'язьнейшых працах, у такіх выданьнях, як „Труды Московскаго Археолог. О-ва“, ці „Труды IX Археолог. Съѣзда в Вильнѣ“ (з вынятком толькі артык. М. Паўлінава: „Древніе храмы Витебска и Полоцка“), апрацаваньне сабранага ў іх багатага матар'ялу праведзена вылучна з гісторычнага або археолёгічнага гледзішча, але гісторычна-мастацкае значэньне памяткаў зусім не разглядаецца.

Адзін толькі М. Паўлінаў, як сказана, ў менаваным артыкуле, як і ў сваёй „Исторіи Русской Архитектуры“ (М. 1894) закранае некаторыя памяткі царкоўнага будаўніцтва з гісторычна мастацкага боку.

Але не ляпей стаіць справа беларускага мастацтва й у навейшых даваенных прадстаўнікоў расейскае гісторычнае навукі. Запраўды — ці-ж ня дзіўная да апошняе меры рэч, што навет капітальная, мнагатомная „Исторія русскаго искусства“ ведамага Ігора Грабара, якая дае шмат месца ўкраінскай архітэктуры, а навет — памяткам жыдоўскага дзераўлянага будаўніцтва на Ўкраіне, пакідае цалком без увагі ўсю тэрыторыю Беларусі — быццам на беларускай зямлі запраўды ня было памяткаў мастацтва, вартых увагі ды навуковага вывучэньня!!. Так шчыльна засланяюць сьветлыя вочы, здавалася-б усебачачай, бесстароннай навукі, цёмныя акуляры нацыяналістычнае тэндэнцыі, не даючы ім бачыць Божага сьвету так, як ён створаны Богам...

Але мала чым ляпей падыходзілі да беларускага Бо-

жага сьвету й польскія дасьледчыкі. Польская навука, праўда, крыху балей цікавілася старавечным мастацтвам Беларусі, але падыходзіла да яго вывучэньня таксама тэндэнцыйна. Разглядаючы Беларусь, як „частку Польшчы“, як „крэсы ўсходнія“, яна проста запісавала ўсе памяткі беларускага мастацтва „на прыход“ у польскі мастацкі інвэнтар, ня гледзячы на розьніцы паміж мастацкай спадчынай „Вялікага Кн. Літоўскага“ і „Кароны“, розьніцы, што проста білі ў вочы.

Але трэба прызнаць, што некаторыя з польскіх дасьледчыкаў, як прыкл., І. Крашэўскі, Е. Раставецкі, праф. М. Сакалоўскі, А. Шразьдзецкі, як і аўтары некаторых артыкулаў і зацемкаў у „Справаздачах Коміс. Дасьледаў Гісторыі Мастацтва ў Польшчы“, ці ў „Працах Ком. Гісторыі Мастацтва“, выданьня Кракаўскае Акадэміі Навук, — пры ўсіх заганах іх прынцыповата падыходу да навуковае задачы, даюць шмат цэннага фармальна-апісовага матар'ялу— з дакладным паказаньнем жаролаў, што мае бяспрэчную вартасьць для навукі, патрабуючы толькі ўважлівага крытычнага перагляду і навуковага апрацаваньня.

---

Дык няма нічога дзіўнога ў тым, хіба-ж вельмі крыўдным для славянскай навуковай амбіцыі, факце, што — пры нябыцьцю тады яшчэ **беларускае навукі** — першымі, хто з запраўднай навуковай об'ектыўнасьцяй падыйшоў да проблемы — стаў вывучаць беларускае мастацтва, як такое, зьявіліся Немцы... У часе нямецкае окупацыі ў Беларусі, у 1915 — 1919 г. г., два нямецкіх наўчоных спэцыялістых: праф. Пауль Вэбэр і „унтэр-ахвіцэр“, доктар Альбэрт Іппэль выступілі запраўднымі „Колюмбамі“ беларускага мастацтва— зразумела-ж не без ор'ентуючае памогі мясцовых „лёцманоў“ — з віленскае групы дзеячоў беларускага адраджэньня: братоў Луцкевічаў, Ластоўскага і інш.

Проф. Вэбэрам была складзена монографія Вільні *), дзе зьмешчана была гісторыя віленскае архітэктуры ад закладзінаў места да апошняга часу, а таксама — некалькі нарысаў царкоўнага малярства, скульптуры і вытворчага мастацтва — з правільным высьвятленьнем уплываў і сувязяў, а такжа — ролі й значэньня розных нацыянальных элемэнтаў у аформленьні іх мастацкага аблічча.

---

*) Wilna, eine vergessene Kunststaette. Von prof. Dr. Paul Weber (lena) Wilna, 1917. Verl· d. Zeit d. 10 Armee.

Другі дасьледчык, д-р Іппэль, выступіў тады арганізатарам выстаўкаў беларускага мастацтва ў Вільні й у Менску, а таксама — аўтарам двух каталёгаў да гэтых выстаўкаў *), — з вельмі цэннымі ўвагамі. Яго-ж пяром напісаны невялічкі артыкул аб беларускім мастацтве „Zur weissruthenischen Kunst" — у зборн. „Weissruthenien". Berlin — 1919. У гэтым артыкуле **) проблема беларускага мастацтва была **ўпяршыню** пастаўлена ясна й войстра, як проблема вывучэньня чыста самастойнае мастацкае галіны, якая яшчэ ніколі ня была прадметам адумысловага навуковага дасьледаваньня, маючы на гэта, аднак, бяспрэчнае права.

У гэтым эпохавым артыкуле нямецкім дасьледчыкам быў **упяршыню** ўжыты й самы тэрмін **„беларускае мастацтва" — у яго шырокім гісторычным значэньні**. Упяршыню тым-жа дасьледчыкам быў ужыты й аналёгічны тэрмін: **„беларуская школа малярства"**. Той-жа дасьледчык, зразумела-ж — не без памогі з боку мясцовых беларускіх дзеячоў, здолеў прыкмеціць ведамыя асаблівыя, самабытныя элемэнты ў найразьнейшых галінах мастацкага творства нашага краю, першы выказаў некаторыя агульныя думкі адносна да жаролаў і сувязяў старадаўняга мастацтва Беларусі.

„Народнае мастацтва Беларусі, кажа д-р Іппэль паміж іншым у сваім артыкуле, адыграе яшчэ калі-небудзь важную ролю ў гісторыі мастацтва.

Край гэты зьяўляўся калісьці мяжою паміж Усходняй і Заходняй Рымскай імпэрыяй на поўначы Эўропы. Старавечная „вялікая дняпроўская дарога" прынесла ў гэтую зямлю апошнія сьляды бізантыцкае й старавечна-грэцкае мастацкае манеры. У некаторых гаспадарскіх будоўлях мы тут знаходзім асноўныя формы грэцкага тэатру й сьвятыні (!). Таксама сустракаюцца сялянскія двары, як прыкл., у ваколіцах Рагачэва, расплянаваньне каторых прыпамінае эліністычна-рымскія вільлі (!). Ведамыя беларуска-літоўскія крыжы ні ў якім прыпадку не мясцовага паходжаньня: мы пазнаём у іх формы насьценнага антычнага малярства, але формы старавечнага паганскага культу былі тут, як гэта часта здараецца, хрысьцянізаваны. Таксама ведамыя бела-

*) Wilna—Minsk. Altertümer — und Kunstgewerbe Führer durch d. Ausstellung d. Zeit. d. 10 Armee. Bearb. v. Uffz. Dr. Ippel. Wilna, 1918. Каталёг Менск. выстаўкі старасьвеччыны і мастацкіх вырабаў. Уклаў унт.-ахв. д-р Іппэль. Менск. Выд. „Газ. 10 арміі".

**) Есьць у 2 беларускіх перакладах: 1. Іппэль. Белар. Мастацтва. З нямецкай мовы пер. М. Байкова „Вольны Сьцяг" № 1-3 і 2. Д-р Іппэль. Беларускае Мастацтва. Пер. з ням. Э. Торбаўца і М. Касьпяровіча. Віцебск, 1925.

рускія паясы ў сваім паходжаньні ўсходзяць да грэцкае тэніі. І хіба-ж ня цзіўна, што, прыкл., яшчэ дагэтуль беларуская сялянка таўчэ крупы таўкачамі тае-ж самае формы, якую мы бачым на малюнку Полігнота ў руках траянскіх жанчын, што бароняцца ад нападу Грэкаў"...

І радасна й горка чытаць усе гэтыя, пэўне-ж задзіўляючыя кожнага з нас зацемляньні нямецкага дасьледчыка, што прыпадкам зьявіўся ў нашай пакрыўджанай Бацькаўшчыне і асьвяціў сьветачам навукі ўпяршыню гэты цёмны „зачараваны кут" Эўропы...

Бо толькі дзякуючы „Немцу" ўсё наша ,,тутэйшае", засьцянковае, мужыцкае, грэбаванае ў Краі, няведамае, дык і няцікаўнае сьвету, апынулася раптам у кроўнай радні з найвышшымі, запраўды каралеўскімі формамі й родамі сусьветна-гісторычнага мастацтва!..

Але Немцы зрабілі толькі першы — рэвэляцыйны ,,вынаход", адчынілі сьвету дый самым Беларусом вочы на скарбы беларускага творчага гэнія, паставілі яго творы ў вадзін ланцуг, у варганічную сувязь з эволюцыяй сусьветнага мастацтва. Але трэба гэтай дарогаю йсьці далей, трэба добра разабрацца ў усёй складанасьці векавых чужаземных уплываў на нашае мастацтва, угледзіць у іх мясцовай, краёвай самастойнай сынтэзе тое **асноўнае свмабытнае ядро,** да якога ўжо ня толькі ў сэнсе тэрыторыяльным, мясцовым, але й у значэньні **стылістычна-формальным,** а мо' й далей — у сэнсе **нацыянальным** можна было-б адносіць тэрмін **„беларускае мастацтва"**. Трэба далей — маючы ўжо ў руццэ гэтую ,,нітку Арыядны", — прасачыць акуратна векавую эволюцыю формаў апошняга. Бо ў гэтым і зьмяшчаецца канчальная задача гісторычнага вывучэньня беларускіх мастацкіх памяткаў, кажа аўтар.

---

Але на дарозе да ўдачнага разьвязаньня гэтае задачы стаіць ладная перашкода: дрэнная захаванасьць патрэбнага для сыстэматычнага навукова-гісторычнага апрацаваньня памяткавага матар'ялу. Шмат з яго канчальна зьнішчана, яшчэ больш папсавана, зьменена пазьнейшымі недарэчнымі пераробкамі ды ,,папраўкамі".

,,Доля Беларускае Зямлі, пісаў у тым-жа артыкуле д-р Іппэль, была заўсёды цяжкая. З найдаўнейшых гісторычных часоў край гэты зьяўляўся блізу што нязьменнай арэнай Арэса (бога вайны). З тых часоў, калі паміж Кіявам, Менскам і Полацкам ішла бязупынныя барацьба, — аж да часоў

Наполеона і апошняе вайны мы тут бачым заўсёды адзін і той-жа абраз: рух войскаў з заходу на ўсход і з усходу на заход — з усімі яго жахлівымі вынікамі, руйнаваньнем і разбураньнем.

Само сабой, што ў гэтым краю цяжка было захавацца забыткам старасьвеччыны, памяткам мастацтва й культуры. Толькі нямногія месцы дазваляюць яшчэ ў сучасны мамэнт часткава аднавіць жывы абраз калісьці высокае культуры гэтае зямлі“.

Ну, але з гэтым ужо няма рады — трэба зьбіраць ды вывучаць тое, што асталося. Асталося ўсё-ж, ня гледзячы на векавыя спусташэньні, вялізарнае багацьце памяткаў — сьведкаў мінулае красы й велічы.

Цэлы сьцяг памяткаў архітэктуры ад XII да XVIII ст. ст., сярод іх каменныя гмахі, носяць на сабе нязвычайную, цікаўную лінію стылістычнага разьвіцьця, дзераўляныя будынкі таксама характарызуюцца ведамай сумаю самабытных формаў і конструкцыяў.

Ня меншай колькасьцяй памяткаў прадстаўлена й беларуская малярская школа, пераважна ў галіне царкоўнага малярства, пачынаючы ад фрэскавых росьпісаў XIV—XV ст., якія рабіліся **беларускімі майстрамі ў Польшчы** (а не наадварот, як даводзіць у нас „віленская навука“...) — у Любліне, Сандомеры, Кракаве,— і канчаючы даўгім сьцягам насьценных і асобных композыцыяў, што захаваліся ў старавечных мескіх і вескіх цэрквах, або сабраны ў нашых музэях.

Таксама шмат памяткаў ведама нам у галіне разьбярства, як чыста скульптурнага таксама й дэкорацыйнага. Апошняе мае асаблівую цікаўнасьць, бо яно ў XVII ст. пераходзіць у Маскоўшчыну, дзе ладне пашыраецца, натолькі, што навет дастала апрычоны назоў: „**беларускае рэзі**“.

Асобнай галіной зьяўляецца гравюра, вытвары якое ў вялізарнай колькасьці знаходзяцца ў нашых старадруках з Віленскіх, Магілеўскіх і інш. друкарняў XVI—XVIII ст. ст.

Ладную колькасьць матар'ялаў можна знайсьці й у галіне ўжытковага мастацтва XVII—XVIII ст. Ювэлірныя вырабы, гафты, тканіны, слуцкія паясы, урэчанскае шкло, — усё гэта складае салідную групу мастацкіх вырабаў, досыць высокіх з тэхнічнага боку і вельмі каштоўных у сэнсе выяўленьня характэрных — беларускіх — орнамэнтальных формаў.

Напасьледак — апошняй галіной зьяўляецца чыста народнае, вясковае мастацтва — з яго цікаўнай орнамэнтыкай у разьбярстве, ткацтве й гафтаваньні, жывое разьвіцьцё якой цягнецца й у нашыя часы.

Ужо адно гэтае параўнаньне паказуе тыя кірункі, у якіх трэба весьці далейшыя шуканьні, і разам з тым выяўляе ўсю шырыню пастаўленае перад гісторыкам беларускага мастацтва проблемы.

Усю гэтую працу трэба адразу паставіць у межы аднае строгае сыстэмы. У васнову яе павінна быць паложана, як добра кажа аўтар, **гісторычна-мастацкая мэтода**. Дзеля таго— наўперад трэба вывучыць характар найбольш старавечнае пары гісторычнага разьвіцьця мастацкіх формаў на тэрыторыі Беларусі, каб **адшукаць тыя асноўныя сувязі**, у комплексе каторых зьявіліся й выявіліся **спачатныя тыповыя рысы беларускае мастацкае манеры**. Пасьля трэба вывучыць асноўныя мамэнты ў гісторыі архітэктуры, як тае галіны мастацтва, якая **грае найбольш істотную ролю ў процэсе формаваньня стылю**, зьяўляючыся ў той-жа час найбольш монумэнтальнай.

Толькі пасьля гэтага можна пачаць ужо вывучэньне іншых галінаў мастацкага творства на Беларусі, дзе шмат якія дэталі можна зразумець толькі ў сьвятле гэтых устаноўленых цьверда й грунтоўна спачатных вывадаў.

Пераходзячы да выпаўненьня ў сваёй працы накіненага вышэй пляну, аўтар і пачынае шуканьне гэтых **спачатных, асноўных, тыповых формаў і рысаў** — у найстаравячнейшай — **курганнай культуры** Беларусі, вывучэньнем якой і заняты ўвесь I разьдзел яго мастацкіх „Нарысаў“.

*С.*

(Далей будзе).

С. Я.

# Вялікі князь Вітаўт як беларускі гаспадар.

(*У пяцьсотыя ўгодкі сьмерці*).

Што трэба, каб якісь валадар (князь, кароль, цэсар, прэзыдэнт) быў гаспадаром дадзенага народу?

Трэба, 1) каб ён сам уважаў сябе за гаспадара дадзенаґа народу і, 2) каб дадзены народ лічыў яго сваім гаспадаром. Калі пры гэтым *гаспадарская* дзейнасьць будзе адказаваць патрэбам дадзенага народу, дык гэта будзе добры, мо' ідэяльны гаспадар.

Нацыянальнае паходжаньне гаспадара ня мае значэньня пры нашым пытаньню. Прыкладам: Сьцяпан Батура ня быў Паляком, але ніхто не сумляваецца, што ён быў каралём *польскім*.

Як-жа ўважалі Вітаўта сучасныя яму Беларусы?

Даўнейшыя Беларусы ўважалі Гедзімінавічаў за сваю дынастыю і навет іх паходжаньне выводзілі ад роду полацкіх князёў — Рогваладавічаў. Ґэтак у Пагодзінскім сьпіску летапісцаў чытаем:

„У великого князя Володимера Святославича другий сынъ Ізяславъ, у Ізяслава сынъ Брячиславъ, у Брячислава сынъ Всеславъ, у Всеслава сынъ Борисъ, у Бориса сынъ Рогволодъ, у Рогволода сынъ Ростиславъ, у Ростислава сынъ Давилъ, у Давила сынъ Видъ, его же люди Волъкомъ звали; у Вида сынъ Троенъ, у Троена сынъ Виденъ, у Витеня сынъ Гедиминъ" *).

Прыведзены пагляд пацьвярджаюць так-жа іншыя летапісцы. А ў Ускрэсенскім летапісцу кажацца, што пасьля крыжавога паходу Рурыкавічаў на Беларусь у 1127 г. і высланьня палоненых беларускіх князёў у Царгорад

„Вильняне взяша собѣ іс Царяграда князя Полотцкого Ростислава Рогволодовича детей: Давила князя да брата его Мовколда князя" **).

---

*) В. Ластоўскі, Гісторыя Беларускай (Крыўскай) кнігі. Коўня, 1926, бал. 82.

**) ibid.

В. Ластоўскі ў сваёй „Кароткай Гісторыі Беларусі“ падаў гіпотэзу, што полацкія Рогваладавічы, уцякаючы ад кіеўскіх князёў у цяперашнюю Віленшчыну й на Жомайць, тут нярэдка прыймалі літоўскія імёны. Паданаму выясьненьню адказуюць весьці даўнейшых летапісцаў. Ведаючы цесную сувязь паміж Рогваладавічамі й Гедзімінавічамі, калі часта немагчыма разабрацца хто да якое дынастыі належа, нельга дзівіцца з такое гіпотэзы.

Паводле імёнаў спачатнае паходжаньне Гедзімінавічаў не беларускае. Маглі яны быць жамойцкага або скандынаўскага роду, як і Рурыкавічы. Але гэта адносіцца да паходжаньня *спачатнага*, а пазьнейшыя Гедзімінавічы — з прычыны жаньбы прэдкаў іхніх з беларускімі княжнамі — і паводле паходжаньня балей належаць да беларускага народу, чымся да якога колечы іншага.

У даўнейшых Беларусаў прадстаўленьне аб Гедзімінавічах абвеена вялікай любасьцяй. Маем аб гэтым шмат сьведчаньняў у старой беларускай літаратуры.

Вось, прыкладам, як канчаецца ў летапісцу апавяданьне аб паходзе Альгерда на Маскву:

„Уседшы сам (Альгерд — *Рэд.*) на конь і копіе свае ўземшы ў рукі і прыехаў к гораду і копіе свае к гораду прыкланіў і едучы назад і рэк так вялікім голасам: „Княжа вялікі маскоўскі, памятуй то, што копіе Літоўскае стаяла пад Масквою!“. І потам князь вялікі Альгірд з усімі войскі сваімі з вялікаю чэсьцю і з многім (палонам і нявымоўным дабыткам, зваяваўшы) і гарады многія пабраўшы, і граніцу ўчыніў па Мажаеск а па Каломну і многа людзей папляніў (і з усімі людзьмі сваімі ў цэласьці ў сваясі адыдзе) *).

Расказуючы аб біцьве ля Воршы 1514 г. беларускіх войскаў пад камандай кн. Канстанціна Астроскага з войскамі маскоўскімі, каторых было пяць разоў балей, як Беларусаў, аўтар летапісцу дадае:

„І памог Бог каралю Жыгімонту і войску літоўскаму, іж Маскву на галаву пабілі і ваявод што настаршых усіх паймалі... дзяцей баярскіх **) і іных многа жывых паймалі і да караля Жыгімонта жывых прыведзена ўсіх у лічбе трыста восемдзесят... а простых людзей, каторых жывых паймалі нельзе й выпісаці мноства для“ ***).

---

*) Паводле сьпіску Яўрэінаўскага з дадаткам у дужках паводле сьпіску Быхаўцавага. В. Л., Гісторыя Бел. (Кр.) Кнігі. Бал. 116.

**) Гэтак у Маскоўшчыне зваўся адзін стан насяленьня, стаячы ніжэй за баяр.

***) Летапісец Рачынскіх, надрукаваны В. Ластоўскім у Коўні ў 1925 г.

Я. Карскі констатуе („Беларусы“ III, 2, 103), што аўтары беларускіх летапісцаў усюды стараюцца праславіць сваіх рупатлівых князёў, каторыя пашыралі граніцы гаспадарства, і ўзьвялічыць свой беларускі народ проці Палякоў і Маскоўцаў.

У ўсіх беларускіх летапісцах Вітаўт ёсьць цэнтральнай і праслаўлянай фігураю. Тыя-ж летапісцы зьмяшчаюць „пахвалу“ Вітаўту. Прывядзём яе.

*Пахвала а вялікам Князі Вітаўце.*

Князь вялікі Вітаўт дзяржаў княства Літоўскае й Рускае і іныя многія землі. І будучы яму ў Вялікам Луцку і хацеў быў на сябе каруну ўзлажыці, іно непрыяцелі яго Палякі таго яму не дапусьцілі каруны ўзлажыці. У тот час Вітаўт прызваў к сабе караля Польскага Ягейла і цэсара Рымскага, і вялікага князя Васіля Маскоўскага зяця сваяго, і караля Вугорскага з каралеваю, і князь вялікі Цьверскі Барыс Аляксандравіч быў, і містр Прускі і Іфлянцкі. А ад іншых земль паслы вялікія былі: ад Івана Царыгародзкага паслы прыходзілі, ад вялікага князя Разанскага паслы прыходзілі, а Адаеўскія князі самі былі, ад Вялікага Новагарада і ад Пскова паслы прыходзілі, і ад ардынскіх царэй і Валохаў ад ваяводы паслы прыходзілі. І мешкалі ўсі тыя госьці ў вялікага князя Вітаўта сем нядзель, а аброку ім выходзіла на страву на кожды дзень па пяці сот бочак мёду, па пяці сот ялавіц, па пяці сот бараноў, па пяці сот вяпроў, па сту зуброў, а па сту ласей, а іных рэчай і чысла ня было.

„Тагды цэсар Рымскі з Вітаўтам у вялікай міласьці быў. І там у Луцку Вітаўт тыя госьці частаваў і дараваў размавітымі дармі каштоўнымі, і ад таго ся была ўцьвярдзіла вялікая міласьць межы німі, іж ня можаць і выпісаці а чэсьці і а дарэх таго вялікага гаспадара слаўнага Вітаўта. І каторыя землі на ўстоца або на западзе — усі прыходзячы кланяліся вялікаму князю Вітаўту: і цар Турэцкі даваў яму чэсьць вялікую і дары мнагацэнныя часта прысылаваў к сільнаму гаспадару Вітаўту, і другі цар Царагародзкі і тот з нім у вялікай ласца быў. І тута-ж Чэскае каралеўства і Ўгорскае й Польскае вялікую чэсьць дзяржалі над слаўным гаспадаром Вітаўтам. І кароль Дунскі вялікую славу й дары даваў слаўнаму гаспадару вялікаму князю Вітаўту і брату яго вялікаму каралю Ягейлу, дзержачы яму столец Польскага каралеўства.

„Калі слаўны гаспадар Вітаўт на каторую зямлю гнеў меў і каторую зямлю хацеў казьніці, кароль Польскі Ягейла заўжды яму помач даваў. І цары Татарскія служылі яму і самі сваімі галавамі на помач яму хадзілі й слухалі яго.

Также й князь вялікі Маскоўскі ў вялікай міласьці быў з нім. І княжата нямецкія слухалі яго і помач давалі на бітву, гдзе яму была патрэба. І яшчэ гаспадар зямлі Малдаўскае і ваявода Волоскі былі яго паслушны ў усем. І князь вялікі Разанскі і князі Адаеўскія ў вялікам паслушэнстве былі. І Вялікі Ноўгарад і Вялікі Пскоў — усі былі паслушны вялікага князя Вітаўта. Цары й князі ў вялікай ласца з нім былі, а іныя служылі і чэсьць вялікую і дары многія прыносілі яму ня толька па ўсі лета, але на кожды дзень. І быў князь вялікі Вітаўт сільны гаспадар і славен па ўсім землям. І многа царэй і князей служылі ў двору яго, а іншыя прыяжджаючы кланяліся яму, просячы сабе ў няго цара на царства ардынскае. Он напервей даў ім цара да арды Салтана. І тот Салтан сядзеў на царстве і ніколі ня сьмеў працівіціся сільнаму гаспадару, і аставіўшы царства, і ехаў на іншае месца царстваваці. І князі ардынскія пасльі сваі пасылалі да слаўнага гаспадара, просячы сабе інога цара. І он ім даў інога цара Малога Салтана. І тот Малы Салтан, будучы на царстве, ня сьмеў аслухаціся слаўнага гаспадара; гдзе калі вялеў яму качаваці, он там качаваў. І па малом часе тот цар князём ардынскім ня люб быў, і ані іншага цара сабе прасілі ў слаўнага гаспадара Вітаўта, і он ім даў царэм Даўледбярдзея. І тот Даўледбярдзей на царстве ўмер. А князь вялікі Вітаўт у тот час быў у Кіеве. І прышлі к няму князі ардынскія пасльі да Кіева з многімі дармі і прасілі сабе інога цара, і он ім даў цара Махмета" *).

Гедзімінавічы звалі сябе князьмі „літоўскімі", „Літвою" звалася гаспадарства, у каторым яны гаспадарылі, а „Ліцьвінамі" беларускі народ. „Літва, Ліцьвін, літоўскі" — гэта нацыянальны назоў беларускага народу ад XIII да XIX ст., нярэдка ўжываны раней і пазьней **).

Настаньне на беларускіх землях новае дынастыі Гедзімінавічаў ня вызвала пералому ў іх гаспадарсьцьвеным жыцьцю, пералому, каторы зьяўляецца заўсёды тады, калі адно гаспадарства бывае заваявана іншым, чужым яму. Пераносіцца толькі цэнтр агульна-нацыянальнага жыцьця беларускага, а ўсё іншае астаецца старое — беларуская культура, што разьвілася ўперад у Вялікім Княстве Полацкім, беларуская мова літаратурная, вытвараная ў васяродку

---

*) Летапісец Рачынскіх, ibid. Як і ранейшыя цытаты, надрукавана паводле тагачаснае вымовы.

**) Гл. аб гэтым арт. д-ра Я. Станкевіча „Czas powstania narodów białoruskiego i ukraińskiego" ў час. „Sprawy Narodowościowe" 1931 г. № 4—5.

тае-ж Полаччыны і інш. Гэрб Вялікага Княства Літоўскага, прадстаўляючы коньніка з *асьміканечным крыжом* на шчыце, мог паўстаць толькі сярод хрысьцянаў усходняга абраду, якімі былі Беларусы. Навет сталіца Вільня ладны час зносіцца із Заходняй Эўропаю тэй-жа дарогаю, як і Полацак— праз Рыгу *). Напасьледак ня толькі ў Наваградку, але й у Вільні мясцовым насяленьнем былі Беларусы **). Усё гэта паказуе, што Гедзімінавічы былі адно новай беларускай дынастыяй.

Новая дынастыя пераняла, як свае заданьні, усе імкненьні беларускага народу, праяўленыя за дынастыі пярэдняе — Рогваладавічаў.

Раней Беларусы ваявалі з Ноўгарадам за Пскоўшчыну і тое самое робяць Гедзімінавічы, асабліва Альгерд. „Тут ён быў наступнікам палітыкі Полаччыны — кажа Ўс. Ігнатоўскі ***), каторая ў папярэдні пэрыёд гісторыі Беларусі таксама ходалася за ўладу над гэтымі гарадамі й валасьцьмі". Наступнікамі Полаччыны былі Гедзімінавічы й у вадносінах да Масквы, ваюючы з ёй беспасярэдне або стараючыся схінуць на свой бок Цьверскае княства, памагаючы яму ў барацьбе з Масквою ****).

Абарона Беларусі ад Украіны таксама дасканальна была праведзена за Гедзімінавічаў; Украіна сталася провінцыяй Беларускага Гаспадарства ды пабіты новыя паўднявыя суседзі — Татары.

Тое самое сталася й у вадносінах да Немцаў - Крыжакоў. Крыжакі на пачатку XIII ст. дасталі дазваленьне ад Полаччыны пашыраць хрысьцянства ў Лівоніі; потым у 1210 г. Полаччына пакідае Лівонію пад Немцамі, за што апошнія плацілі дань Полацку. Напасьледак, у 1264 г. Полацкі й Віцебскі князь Гердзень зракаецца сваіх правоў на Латгалію, а Крыжакі адмаўляюцца ад прэтэнзяў на Полацкую зямлю. Гэткім парадкам адступленьне Полацку ад узьбярэжжа Балтыцкага мора далей ідзе за новае дынастыі папярэднікаў Гедзімінавых. Ходаньне ў часе Гедзімінавічаў ня спыняецца, за якісь час Беларусы пераходзяць у наступ і перамагаюць Крыжакоў у біцьве пад Грунвальдам 1410 г. Пры гэтым гэроямі бітвы ё тры смаленскія палкі й Вітаўт. Семсот Грэкаў загінулі, каб уратаваць бацькаўшчыну ад находу барбараў - Пэрсаў; аб гэтым ведае ўвесь сьвет, ведаюць і ўсе

*) Semkowicz, Hanul namieśnik wileński. „Ateneum". Wilno — 1930.
**) ibid.
***) Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Вільня, 1921, бал. 47.
****) ibid.

школьныя дзеці. Але ў 1410 г. пад Грунвальдам 3 беларускія палкі смаленскія адны ўстоілі проці ўсяе Заходняе Эўропы, ня барбарскае, а цывілізаванае проці нас; яны таксама зьгінул', але памяць аб іх не захавалася навет у іхніх патомкаў, бо патомкі гэныя сталіся ня вартымі сваіх прэдкаў.

Географічнае палажэньне замкаў, стаўленых дзеля абароны ад Крыжакоў, сьведчыць, што яны баранілі Беларусь, а ня Жомайць. Каго, калі не Беларусаў, маглі бараніць замкі ў Троках, Вільні, Медніках, Лідзе, Крэве, Наваградку, Горадне? Адзіны замак ковенскі мог бараніці Жомойць, але гэта ня значыць, што яго паставілі Жамайцяне (Жмудзіны), а не Беларусы, бо пануючы, гаспадарствена - творны народ можа выносіць сваю абарону наперад, у чужую зямлю, але нідзе й ніколі ня робе так, каб умацаваньні рабіў за сваёй зямлёй, пакідаючы сваю бацькаўшчыну на спусташэньне непрыяцелям.

Вітаўт вёў далей палітыку сваіх папярэднікаў. Застаў ён добра прыгатаваны грунт. Як геніяльны палітык, Вітаўт давёў гаспадарсьцьвеную дзейнасьць сваіх папярэднікаў да дасканальнасьці.

На яго долю выпала даўгую барацьбу з Крыжакамі завяршыць перамогаю. Ня лішнім будзе адцеміць, што пры няўдачах Вітаўт лёгка ўступаў Жамойць Крыжаком. Не рабіў-бы гэтага, каб пачуваўся да літоўскасьці ў цяперашні значэньню гэтага слова; ён-бы валей тады аддаў Крыжаком часьць Полаччыны, што таксама, як і Жамойць, беспасярэдне гранічыла з Крыжакамі.

Маскоўшчыне Вітаўт не пакідаў ані крышкі беларускае зямлі. Часьць прылучыў беспасярэдне да свайго гаспадарства, а другая часьць (Пскоўшчына) была пад протэкторатам Беларускага Гаспадарства.

Нягледзячы на няўдачную бітву ля Ворсклы, Вітаўт перамог Татароў. Ён садзіў ханаў у Залатой Ардзе.

Перамогшы ўсіх непрыяцеляў Беларускага Народу, Вітаўт пад канец свайго жыцьця задаўся мэтаю офіцыяльна ўвесьці Беларускае Гаспадарства ў сям'ю эўропэйскіх гаспадарстваў як роўнага сябру, здабыўшы яму тытул каралеўства. Нажаль, гэтага яму не ўдалося дапяць: іншыя праціўнікі (Палякі) і сьмерць старога Вітаўта перашкодзілі гэтаму. Беларускія летапісцы гэтак адцемілі гэную няўдачу: „І Ляхове, ня зычыўшы кароны Ліцьве, карону ад іх (паслоў рымскага цэсара) тую адабраўшы й расьсекшы на полы, прылажылі ка кароне біскупа кракаўскага, каторая й цяпер пры замку й касьцеле сьв. Станіслава ёсьць".

Дзеяльнасьць Вітаўтава ня вынікала з сьцілюбства ці іншых асабістых імкненьняў, але мела наўвеце патрэбы Беларускага Народу—забясьпечаньне яму будучыні. Дзеяльнасьць яго вынікала з любові да свайго Беларускага Народу, была патрыятычнаю. Калі яго Чэхі абралі за свайго караля, дык ён замест сябе паслаў у Чэхію свайго братаніча Жыгімонта Карыбутавіча. Адмовіўся ён і ад кароны польскае, каторую Палякі прапанавалі ў часе луцкіх каранацыйных зьездаў. Не хацеў ён чужых каронаў, бо дамагаўся кароны свайму народу. Гэтым Вітаўт чыста падобны да іншага вялікага беларускага гаспадара — Усяслава Полацкага. Той таксама, калі будучы палонены кіеўскімі князьмі і пасаджаны ў цямніцу ў Кіеве, быў Кіяўлянамі абраны за Вялікага Князя Кіеўскага, пакінуў Кіеў і вярнуўся ў родны Полацак.

ПЁТРА СЯРГІЕВІЧ.

# Рупмася аб мастацтве!

Побач з нацыянальнай сьвядомасьцяй і адраджэнскім рухам у літаратуры, павінна расьці й разьвівацца нашае мастацтва, узгадаванае сярод краскаў родных палёў, звычаяў, песьняў, гісторыі, сьвята і працавітага дня. Шчасьлівы той народ, каторы знае сусьветную культуру, але ў сваім творстве астаецца сабой, асвабаджаецца ад усіх уплываў і выказуе чысты абраз душы свае. Каб разьвіць мастацтва, трэба зрабіць сувязь з вёскай, адкуль, як із крыніцы, б'е й разходзіцца падсьведамы твор нашага народу. Маем сваю архітэктуру, разьбу, малярства й ткацтва, а так мала маем сьведамасьці, што гэта нашае.

Не дарма даценілі Палякі нашае ткацтва і цяперака няма дому, дзе-бы ня можна было бачыць хоць адну каштоўнасьць нашага скарбу.

Ад сьмерці вялікага эстэта й дзеяча, Івана Луцкевіча, мала хто падумаў, каб павясьці далей ягоную працу і ўзбагачаць Музэй, наш першы дом, куды вядзем сваіх гасьцей і па каторым пазнаюць народ. Ці якая ўстанова забралася паслаць экспэдыцыю ў народ дзе я дасьледаў нашага мастацтва?

Таксама важная а занядбаная цяпер, ляжачая папарам нашая музыка.

Ня маем свайго хору, дзе можна было-б пачуць нашую песьню, каторая ўсіх нас так лучыць і ўзбагачае нашую душу.

# Народная песьня.

**Узыйшлі, ўзыйшлі ды два месяцы ясны. .**




Ой вандруючы так сабе гаварылі:
Слаўну мы, браце, дзяўчыну намовілі.

Ой ходзьма, ходзьма мы, таварышу, ходзьма;
Ой зводзьма, зводзьма мы дзяўчыну, ой зводзьма.

А як будзем мы абодва к ёй хадзіці,
То ня будзе нас дзяўчыначка любіці.

Ой пойдзем, браце, мы у роўнае поле,
Спрабуем, браце, чыя стрэльбанька скора.

Паповіч стаў на высокай гарыцы,
Удовін сын стаў на нізкай далініцы.

Паповіч стрэліў — даліну перастрэліў,
Удовін стрэліў — у сама сэрданька цэліў.

— Дарую табе, мой таварышу, дзеўку,
Толькі ты выймі з майго сэрданька стрэлку.

— Табе, мой браце, у пясочку ляжаці,
А мне, мой браце, з дзяўчынай пагуляці,

Табе, мой браце, у сырой зямлі гніці,
А мне, мой браце, з дзяўчынкай век жыці.

Мэлёдыю й тэкст запісаў у 1923 г. А. Стэповіч
у сваёй маці ў в. Барані, Сьвянцянскага пав.

## Концэрт 5.XII.31 ў Беларускай Гімназіі ў Вільні.

Концэрт у віленскіх Беларусаў — зьявішча рэдкае. Прычынаў далёка глядзець ня трэба: мала ёсьць каму граць, пяяць, ня шмат ёсьць каму й слухаць.

— Як-жа гэта? Публікі-ж бывае поўная заля — адкажуць нам.

Гэта праўда. Беларускія вечарыны ў нашай гімназіі на нястачу публікі ніколі ня жаліліся. Бяда толькі, што ў нас адна й тая самая публіка да ўсяго: да спэктакляў, концэртаў, да лекцыяў і... скокаў. Ці — ляпей кажучы — концэрты, лекцыі, спэктаклі й скокі — усё для тае самае публікі. А найсмутней тое, што калі-б выкінуць з беларускіх вечарынаў скокі, дык таковыя зборкі вельмі парадзелі-б. Трэба так-жа адцеміць тутака, што ня рэдка слабыя спэктаклі з концэртнымі адзьдзеламі адвучылі ад бываньня большасьць сур'язьнейшае публікі. Апошняя, праўда, лішне пасьпяшыла зьбезахвоціцца, замест таго, каб парупіцца паправіць справу.

Калі судзіць паводле нашых вечарынаў, дык можна падумаць, што беларуская моладзь у тангавай і фокстротнай культуры ані не астаецца ад нашых „культуртрэгераў". Затое як мізэрна прадстаўляецца ў Заходняй Беларусі нашая культура музыцкая! А найсмутней тое, што й прогрэсу ніякага ня відаць. У той час як кожны год у нас выходзяць абсольвэнты із сярэдняй і вышшай асьветаю, яшчэ ніхто ня чуў, каб хоць адзін Беларус скончыў у Вільні ў нашыя часы музыцкую школу. У віленскай консэрваторыі сустракаем прадстаўнікоў розных народаў, але блізу што няма тамака сьвядомых свае нацыянальнасьці аўтохтонаў Краю — Беларусаў. Палажэньне такое, што проста стыдна прызнавацца.

Калі прыняць яшчэ пад увагу, што Беларуская Гімназія ў Вільні ня мае цяперака заўсёднага хору ані вучыцеля пяяньня, дык зусім ясна робіцца, як цяжка арганізаваць у нас добры беларускі концэрт.

У гэткіх варунках можна толькі дзівіцца, што грам. Шырма ў працягу даволі кароткага часу здолеў прыгатаваць хор, які хараша выпаўніў цэлы сьцяг народных песьняў беларускіх. Можна сабе прадставіць, як цяжка было з гэтага сырога школьнага „матар'ялу" прыгатаваць шмат даволі складных гармонізацыяў песенных.

Праца грам. Шырмы запраўды заслужуе на вялікую ўдзячнасьць з боку нашага грамадзянства.

На асаблівую ўвагу ў програме концэрту заслугуюць арыгінальныя композыцыі грам. Галкоўскага (творства яго-

нае далёка не дацэнюецца Беларусамі з прычыны нябыцьця ў нас менаванае музыкальнае культуры навет сярод інтэлігенцыі).

Зацемлю, што ня трэ' было прыбіраці эстрады диванамі, каторыя нягодна ўплывалі на акустыку. Галасы салістых ад гэтага асабліва пацярпелі.

А наагул трэба лічыць концэрт удалым і рэдкім па сваёй пастаноўцы.

*А. Б—скі.*

# Культурная хроніка.

*Царкоўныя справы.* У лістападзе 1931 г. было ў Варшаве паседжаньне Перадсаборнае Зборкі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. Было прынята ладне рэзалюцыяў, з іх нам ведамыя адно некаторыя. Асьветная Комісія Перадсаборнае Зборкі пастанавіла дамагацца адчыненьня пры Віленскім у-це факультэту праваслаўнага багаслоўя. Паводле жаданьня Комісіі выкладовымі мовамі на гэтым факультэце былі-б беларускі й маскоўскі языкі. Пастанова аб маскоўскай мове — зусім непатрэбнай і шкоднай—магла зьявіцца вылучна з тае прычыны, што ў Асьветнай Коміссі, як і ў цэлай Перадсаборнай Зборцы нямашака прадстаўнікоў ад праваслаўных Беларусаў.

*Т ва Прыяцеляў Беларусаведы Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні.* Закладзенае летась у канцы школьнага 1930-31 г. гэтае Т-ва можа мець перад сабою слаўную будучыню. Нарадзілася яно як адказ на патрэбы студэнтаў-Беларусаў У. С. Б. ў студыях беларушчыны. За кароткі час свайго быцьця Т-ва даволі патрапіла сябе праявіць як беларуская арганізацыя ідэйная й навуковая.

Яшчэ летась да свае легалізацыі Т-ва з агульнага дазваленьня рэктара арганізавала колькі навуковых паседжаньняў. У сёлетнім школьным годзе з прычыны прыпыненьня на якісь час заняткаў у Ўнівэрсытэце Т-ва мела толькі два навуковыя паседжаньні і адну годнюю зборку.

На першым сёлетнім паседжаньню 1.XI. магістар права гр. Шкялёнак прачытаў рэфэрат на тэму „Канцлер Леў Сапега, яго жыцьцё й дзейнасьць“. Лектар удала на аснове друкаваных дакумэнтаў прадставіў слухачом гэтага вялікага Беларуса як беларускага патрыёта, палітыка, дыплёмата й юры-

стага. Грам. Шкялёнак далей працуе над гісторычнай асобаю вялікага беларускага канцлера, каб у 300-ыя ўгодкі сьмерці ятонае (Леў Сапега ўмер у 1633 г.) мець аб ім закончаную працу.

На другім паседжаньню ў сёлетнім школьным годзе 6.XII. прачытаў грам. В. Грышкевіч рэфэрат на тэму „Сойм Вялікага Княства Літоўскага“, у каторым грунтоўна паказаў развой парлямэнтарызму ў гісторычнай Ліцьве, ці — начай кажучы — у беларускім гаспадарстве, званым Літвою.

Сьцяг рэфэратаў на розныя тэмы назначыла Т-ва на час па Новым Годзе сёлета.

Навуковай працы „Т-ва Прыяцелеў Беларусаведы“ прыяе той факт, што куратарам яго ёсьць проф. д-р Э. Кошмідэр, даючы яму ў навуковым кірунку шмат ініцыятывы.

На годняй зборцы Т-ва 13.XII абраны гэткі Ўрад Т-ва: Ст. Станкевіч (за старшыню) М. Мілючанка, Э. Залкіндзішка, М. Пяцюкевіч і Я. Хвораст. У Рэвізыйную Комісію абраны: Т. Мацьвеішка, Яз. Клагіш і В. Тумаш.

На тэй-жа зборцы Т-ва пастаноўлена, каб кожная сяброўка й сябра запісалі на Каляды географічныя й асабовыя назовы беларускія свае мясцовасьці, паводле кніжкі Бр. Скарыніча пад тым-жа назовам, ды беларускія народныя песьні, казкі, прыказкі й загадкі.

# Да нашых падпішчыкаў.

Дзякуючы прыяцелям „Нёмну“, Рэдакцыя яго мае магчымасьць даваць сваім падпішчыкам гэткія прыдаткі: 1) хто прышле падпіску ня меней як на паўгоду, той за *паўцаны* можа дастаць беларускую эпопэю „Новая Зямля“ Я. Коласа (296 старонак, цана ў продажы 1 зал. 90 гр.) і кніжку „Ніва й Краскі“, зборнік з найхарошшымі беларускімі вершамі, апавяданьнямі ды начыркам гісторыі Беларусі (104 стар., цана ў продажы 1 зал.). Значыцца абедзьве гэтыя кнігі можа дастаць за 1 зал. 45 гр., замест 2 зал. 90 гр.

2) Хто прышле падпіску ня меней як на 3 мес., той за паўцаны можа дастаць менаваны зборнік „Ніва й Краскі“ і „Dudku Biełaruskuju“ М. Бурачка (цана ў продажы 40 гр.); значыцца абедзьве гэтыя кніжкі можа дастаць за 70 гр., замест 1 зал. 40 гр. Замест „Biełar. Dudki“ можна ўзяць за 15 гр. „Адвечную песьню“ Я. Купалы (цана ў продажы 30 гр.).

Жадаючыя на пададзёных варунках дастаць пераліча-ныя кніжкі маюць, пасылаючы падпіску, дадаць грошы на кніжкі і 20 грашоў на перасылку кніжкаў.

*Рэдакцыя „Нёмну“*

# Да Грамадзян Беларусаў.

Часапіс „Нёман“ выдаём у складанку. Гэта адзіны магчымы спосаб беларускага выдавецтва, бо багатых людзёў паміж намі нямашака, каб хто адзін мог выдаваць, а ўрад на беларускія выданьні не дае нічагусенькі, нягледзячы на тое, што Беларусы плацяць вялікія падаткі. Кожны, хто сыстэматычна, г. зн. што месяца, дае азначаную ім самым складку (найменей 1 зал. ў месяц), належа да выдаўцоў „Нёмну“. Кожны выдавец „Нёмну“ мае права дастаць гэтулькі экзэмпляроў кожнага нумару „Нёмну“, колькі прыпадае на плачаную ім складку.

Цяжкія варункі выдавецтва прынукаюць усіх сяброў Рэдакцыі, Выдавецтва й Адміністрацыі працаваць дарма. Плацім адно за друкарскую работу, паперу й клішэ. З тае-ж прычыны Выдавецтва, ня маючы магчымасьці, ня будзе плаціць гонорару аўтарам вершаў, апавяданьняў, артыкулаў і г. д.

Складкі просім прысылаць па адрэсу: Эдвард Будзька, Вільня, Каліварыйская вул. № 53 кв. 2.

**Дагэтуль дасталі складкі ад гэткіх грамадзян: Ад. Будзькі 20 зал., д-р Я. Станкевіча 20 зал. (за 2 месяцы), Я. Васілеўскага 10 зал., Яз. Гапановіча 10 зал., З. Івацэвіча 10 зал., Я. Малькі 10 зал., Гэрмановіча 5 зал., В. Грышкевіча 5 зал., Лабана 2 зал Усім ім вялікі дзякуй,**

*ВЫДАВЕЦТВА.*

## ЗЬМЕСТ:



**Абмылкі ў друку: на стар. 9 ня трэба вынаскі; на ст. 13 пад малюнкам замест „Пажар замчышча“ мае быць „Пажар гарадзішча“.**

Выдавец: Адвард Будзька. Рэдактар: Пётра Сяргіевіч.

Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная вуліца 6—10.